● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ○ цана 1000 рублёў

10 снежня 1996 г. аўторак, № 286 (23089)





# ЗВЯЗДА

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...ПАД НОВЫ ГОД «СТРЭЛЬНУЦЬ» ЦЭНЫ НА ШАМПАНСКАЕ І ГАРЭЛКУ

**Той, хто не паспеў своечасова запасціся бутэлькай шампанскага да навагодняга свята, магчыма, у хуткім часе пашкадуе аб гэтым: ходзяць чуткі, што неўзабаве чакаецца павелічэнне кошту гэтага напою з 52 да 82 тысяч рублёў.**

Дарэчы, паводле неафіцыяльнай інфармацыі, тое ж самае чакае і белую гарэлку. Прынамсі, прадаўцы гандлёвых кропак робяць заяўкі на завоз «белай» праз нейкі час ужо па новых цэнах: «Пшанічнай» — па 41.700 рублёў за бутэльку ёмістасцю 0,5 літра, «Белай Русі» — каля 50.000 рублёў і гэтак далей. Калі пачнецца продаж гарэлкі па новаму кошту — дакладна сказаць пакуль немагчыма, паколькі апошнім часам гэты працэс зноў рэгулюецца з аб'яўленнем новых цэн у друку — у адрозненне ад папярэдніх нязначных ваганняў кошту «белай», якія, акрамя спецыялістаў, неспрактыкаванае вока спажыўца напачатку магло і не заўважыць на цэнніках у магазіне.

Каменціруючы па просьбе «Звязды» гэтыя звесткі, намеснік міністра гандлю Міхаіл Еўтухоўскі ў тэлефоннай гутарцы катэгарычна абверг чуткі аб магчымым павелічэнні кошту шампанскага. «Нідзе гэта пытанне не абмяркоўвалася, нават сам завод нікуды не выходзіў з такой прапановай або просьбай», — зазначыў Міхаіл Міхайлавіч. Практычна тое ж самае спадар Еўтухоўскі сказаў і ў дачыненні да змянення цэн на гарэлку. Як вынікае з яго слоў, названы кошт «белай», а таксама заяўкі гандлёвых работнікаў на завоз гарэлкі па новых цэнах не адпавядаюць рэчаіснасці. Што ж, пачакаем. Зазначым толькі, што, па раней апублікаваных звестках Міністэрства гандлю, кошт белай гарэлкі павінен складаць 2-3 долары, зразумела, у рублёвым эквіваленце...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ШТО БАЧАЦЬ БЕЛАРУСЫ Ў ЛУКАШЭНКУ

**Як паведамлялася ўжо, у канцы лістапада Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю амерыканскай газеце «Уолстрыт Джорнэл Юэрэп». 3 снежня яно было апублікавана ў названым выданні. БЕЛТА прапануе пераклад гэтага артыкула.**

У адрас беларускага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі гучала шмат крытычных заўваг пасля таго, як яго новая Канстытуцыя была адобрана на рэферэндуме ў апошнюю нядзелю. Але ёсць факт, якога не адмаўляюць нават крытыкі Прэзідэнта: ён па-сапраўднаму папулярны.

Панам Лукашэнкам захапляюцца, адначасова ён карыстаецца падтрымкай па прагматычных матывах. Адна паважаная пажылая жанчына з сельскай мясцовасці (дзе пражывае 40 працэнтаў насельніцтва) плакала, калі гаварыла аб тым, што ён збавіць краіну ад бед. Касірка ў правінцыяльным магазіне сказала, што ён заслугоўвае шанцу хоць бы таму, што яго апаненты ў Вярхоўным Савеце нічога не зрабілі з таго часу, як былі туды выбраны. І наадварот — нягледзячы на вобраз нестабільнай краіны ў перыяд рэферэндуму, намаляваны на Захадзе, — падтрымка парламенцкіх праціўнікаў Прэзідэнта нязначная. «Мы ніколі не бачылі тут нашых дэпутатаў, — сказала адна жанчына ў маленькім гарадку. — Яны вечна ў Мінску». Яўка выбаршчыкаў на некалькіх апошніх выбарах у парламент была нізкая, а дэманстрацыі ў Мінску ў апошнія выхадныя былі нешматлікія.

Узровень і сіла падтрымкі пана Лукашэнкі паказвае, што нядаўняя барацьба паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі наконт таго, ці будзе яго Канстытуцыя юрыдычна адобрана на рэферэндуме, не была канфліктам паміж антыдэмакратычнымі і дэмакратычнымі сіламі, як гэта падавалі на Захадзе і ў сродках масавай інфармацыі. На самай справе, як сам пан Лукашэнка пацвердзіў у інтэрв'ю з вашым карэспандэнтам у сераду, гэта было «барацьбой за ўладу». Ён не ўдакладніў, што апазіцыю ўзначальваюць былыя высокапастаўленыя наменклатуршчыкі і што яна складаецца ў асноўным з людзей, якія засядаюць у Вярхоўным Савеце як дэпутаты ад камуністычнай партыі. Парламенцкія выбары ў мінулым годзе, якія прывялі іх да ўлады, былі небясспрэчнымі, і многія беларусы бачаць у сваіх дэпутатах членаў эліты, якая абслугоўвае ўласныя інтарэсы.

Гэта пакідала беларусам мала выбару. Апанентаў Лукашэнкі з радоў гэтай эліты абурае, што ён адабраў іх пажыццёвыя прывілеі, яны грэбуюць ім як былым старшынёй калгаса, які меў вельмі невысокую пасаду ў камуністычнай партыі. І сапраўды, пан Лукашэнка — адзін з толькі двух кіраўнікоў дзяржаў у былым Савецкім Саюзе, які ніколі не займаў высокіх пасад у камуністычнай сістэме. Тым не менш, пан Лукашэнка, вядома ж, не з'яўляецца «рэфарматарам» у заходнім стылі. У час нашага інтэрв'ю ён падкрэсліў, што «мы не павінны спяшацца і ламаць існуючую сістэму, бо чым хутчэй мы гэта зробім, тым больш балюча гэта будзе».

У Беларусі нялёгка адрозніць «добрае» ад «дрэннага». Найбольш прызнаныя апазіцыянеры, лідэры Беларускага народнага фронту, які выступае за незалежнасць, Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык у ліпені папрасілі палітычнага прыстанішча ў Злучаных Штатах на той падставе, што іх вось-вось арыштуюць. Пан Лукашэнка заявіў мне ў сераду, што яны свабодна могуць вярнуцца, але дадаў непатрэбнае (і да некаторай ступені злавеснае) папярэджанне, што ім трэба будзе падпарадкавацца законам краіны, калі яны вернуцца. Але, якой бы ні была ісціна, цяпер ліберальныя сілы зусім адсутнічаюць на палітычнай сцэне Беларусі.

Адна з ключавых фігур у развіцці крызісу — старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня сімвалізуе спаўзанне Беларусі ў шэрую зону. У лістападзе суд пастанавіў, што прэзідэнцкая Канстытуцыя павінна быць прынята не на рэферэндуме, а толькі Вярхоўным Саветам. У выказваннях, якія, відаць, былі натхнёныя больш палітыкай, чым законам, у інтэрв'ю ў сераду ён рэзка крытыкаваў пана Лукашэнку за тое, што краіна зноў уцягваецца ў таталітарызм. Але пан Ціхіня — не дэмакрат ад нараджэння. У мінулым пан Ціхіня займаў такія высокія пасады, як сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі... Карацей кажучы, ён быў адным з галоўных тэарэтыкаў і практыкаў сапраўды таталітарнай сістэмы. У былым Савецкім Саюзе, магчыма, ёсць тыя, хто па-сапраўднаму змяніў свае погляды, але тая лёгкасць, з якой некаторыя, накшталт пана Ціхіні, мяняюць фронт, здольна выклікаць пэўныя падазрэнні.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ПАЧАКАЕМ ДА ХАЛАДОЎ

**І ў далейшым надвор'е не збіраецца балаваць нас зімнімі маразамі. Аб гэтым карэспандэнту «Звязды» паведамілі ў Белгідрамеце.**

Учора крыху пахаладала, і многія ўжо вырашылі: вось ён, пераход ад восені да наступнага перыяду года. Аднак паспяшаліся з прагнозам. Сапраўды, у бліжэйшыя дні крыху пахаладае ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях: 12 снежня ўначы тэмпература будзе ад трох да васьмі градусаў марозу. Што датычыцца астатніх абласцей, то надвор'е там будзе заставацца ранейшым. Праўда, ужо з 14 чысла ўсё вернецца «на кругі свае»: зноў пацяплее. Чакаецца, што на Беларусь абрынуцца цёплыя патокі з поўдня. Такім чынам, як бачым, пакуль халады не спяшаюцца заяўляць свае правы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ЗДАРЭННІ*

## ДА ТРАГЕДЫІ БЫЛО ПАЎКРОКУ...

**У пятніцу бліжэй да ночы ад аператыўнага дзяжурнага Барысаўскага гарнізона паступіла трывожнае паведамленне аб тым, што ў кране з гарачай вадой у Пячах выяўлены кроплі ртуці. Рашэннем камісіі Барысаўскага гарнізона сістэма водазабеспячэння ваеннага гарадка была тэрмінова адключана. Высвятленнем абставінаў надзвычайнага здарэння занялася камісія па надзвычайных сітуацыях Барысаўскага гарвыканкома.**

Учора камісія гарвыканкома працавала на месцы ЧП, таму, на жаль, мы не змаглі пагутарыць з яе кіраўніком. Аднак нам удалося звязацца са старшынёй Барысаўскага гарвыканкома Віктарам Капульцэвічам, які прадаставіў газеце падрабязную інфармацыю наконт сітуацыі ў Пячах.

Па словах Віктара Людвігавіча, на сённяшні дзень рабіць нейкія высновы наконт ЧП пакуль яшчэ рана: камісія дасць ацэнку інцыдэнту крыху пазней.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



Расту, на вялікіх гледзячы... Фота Аляксандра КАРЖА.

## УСМЕШКА ПАШТАЛЬЁНА

### У мінулую пятніцу быў уручаны галоўны прыз конкурсу «Звязды» — мотаблок «МТЗ-12»

Ганна Уладзіміраўна Раманенка працуе паштальёнам ужо шосты год. І ўвесь гэты час яна абслугоўвае жыхароў вёсак Чэхі, Чырвоны Востраў, Чырвоны Прамень і Будкі. А гэта больш як трыста двароў. Тутэйшая жыхарка прыветлівая і спагадлівая, яна добра ведае людзей, і яны добра яе ведаюць. Адны просяць прывезці з Галоўчыц, цэнтральнай сядзібы калгаса, мыла, другія — пральны парашок, трэція — іншыя тавары. І яна нікому не адмаўляе. Загрузіць свой веласіпед газетамі, розным таварам — і ў дарогу. А яна няблізкая — сем кіламетраў у адзін канец.

З даўніх часоў Ганна Уладзіміраўна з'яўляецца прыхільніцай нашай газеты. Не толькі сама чытае яе, але і рэкамендуе вяскоўцам. А слова паштальёна для многіх з іх важкае. І калі Раманенка даведалася, што рэдакцыя аб'явіла конкурс сярод паштальёнаў і грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку рэспублікі, вырашыла ўключыцца ў яго, падпісала на газету «Звязда» 123 чалавекі. А потым прачытала ў газеце, што выйграла галоўны прыз конкурсу — мотаблок «МТЗ-12».

Уручалі мы яго Ганне Уладзіміраўне ў Галоўчыцкім аддзяленні сувязі з начальнікам Нараўлянскага раённага вузла паштовай сувязі Антонам Максімавічам Брэвусам у прысутнасці яго супрацоўнікаў. Паштальёнка крыху хвалявалася і, усміхаючыся, сказала што гэта добры падарунак яе мужу Мікалаю Фёдаравічу, які працуе ў калгасе трактарыстам. Мотаблок арэ, баранue, культывуе, робіць міжрадковую апрацоўку бульбы і буракоў, косіць траву, перавозіць грузы і г. д. Каштуе ён 19.872 тысячы рублёў і, вядома ж, вельмі карысны ў гаспадарцы.

— Мяркую, што дасі і нам папрацаваць на ім, — звярнулася да Ганны Уладзіміраўны начальнік аддзялення сувязі Ніна Аляксееўна Лапета.

— А як жа, — адказала тая. — Гэта наш агульны поспех. А вашы ж мужы таксама механізатары.

На сённяшні дзень Галоўчыцкае аддзяленне сувязі, як зазначыў Антон Максімавіч, з'яўляецца лідэрам па падпісцы на «Звязду» сярод аддзяленняў сувязі раёна. І, цалкам магчыма, яго працаўнікам і падпісчыкам, якія аформілі падпіску на газету на паўгода, яшчэ выпадзе наш каштоўны прыз. Мы жадаем ім, як і іншым паштальёнам і чытачам «Звязды», гэтага з усёй шчырасцю. Давайце сябраваць і далей. Будзьце з намі!

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ,**

Нараўлянскі раён.

**Сёння падпіска заканчваецца. Паспяшайцеся на пошту! Заставайцеся з намі!**

# ШТО БАЧАЦЬ БЕЛАРУСЫ Ў ЛУКАШЭНКУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Вядома, пан Лукашэнка быў вельмі рэзкі і напэўна звыштэмпераментны, калі ануляваў лістападаўскае рашэнне суда (хоць ён апраўдвае гэта рашэнне, спасылаючыся на артыкул 3 Канстытуцыі, якая абвяшчае, што ўся паўната ўлады зыходзіць ад народа). Аднак вельмі нямногія заканадаўчыя органы ў свеце правамоцныя прымаць Канстытуцыю, і, як прызнаў сам пан Ціхіня, у Беларусі няма канстытуцыйнай юрыспрудэнцыі, якая б дакладна вызначала, якія менавіта змяненні Канстытуцыі могуць або не могуць зацвярджацца на рэферэндуме. І, напэўна, нельга разглядаць як зусім незаконнае вырашэнне спрэчкі трэцім бокам, у дадзеным выпадку электаратам. Больш шырокім пытаннем для Беларусі з'яўляецца тое, ці будзе электарат і далей мець права голасу ў тым, як і хто ім будзе кіраваць.

Хоць пан Лукашэнка цяпер зможа прымаць некаторыя законы шляхам выдання ўказаў, большасць заходніх каментарыяў наконт гэтага скажаюць сітуацыю. І хоць ён, несумненна, мае аўтарытарныя схільнасці, варожасць Захаду да пана Лукашэнкі не стасуецца з заходняй падтрымкай іншых былых савецкіх рэспублік, дзе таксама ўведзена моцнае прэзідэнцкае праўленне. Ці сапраўды Беларусь яўна горшая за Расію, у якой мафіёзнасць пранізвае палітычнае і дзелавое жыццё і якая загубіла пад бомбамі 40.000 сваіх уласных грамадзян у Чачні?

Такім жа чынам, калі папрокі ў адрас пана Лукашэнкі за падначаленне сабе дзяржаўнага тэлебачання апраўданыя, чаму ж тады расійскія тэлестанцыі не падвяргаюцца такой жа крытыцы за аднагалосную і некрытычную падтрымку Барыса Ельцына ў час прэзідэнцкіх выбараў гэтага года? На Захадзе гаварылі, што дзяржаўны кантроль за сродкамі масавай інфармацыі зрабіў рэферэндум па вызначэнню незаконным, але, як пацвердзіў па-антылукашэнкаўску настроены былы кіраўнік Цэнтра сродкаў масавай інфармацыі, фінансуемага Сорасам, тры апазіцыйныя газеты і варожа настроеныя расійскія газеты шырока распаўсюджваюцца ў Беларусі, не падвяргаючыся цэнзуры. Тыя апазіцыйныя газеты, якія друкуюцца ў суседняй Літве, рэгулярна паступаюць у краіну.

Працаўнікі Прэзідэнта таксама сумняваюцца ў выніках рэферэндуму (70,45 працэнта электарату выказаліся за прэзідэнцкую Канстытуцыю), а міжнародныя арганізацыі паўтараюць іх заявы. Напрыклад, лідэр камуністычнай фракцыі Вярхоўнага Савета Сяргей Калякін сцвярджаў, што мільён галасоў быў дабаўлены да вынікаў рэферэндуму (хоць ён і не сумняваўся, што Вярхоўны Савет атрымаў толькі 7,93 працэнта галасоў, паводле афіцыяльных вынікаў). Але ніхто з тых, хто сцвярджаў, што галасаванне незаконнае, — уключаючы партыю пана Калякіна, ЗША, Паўночнаатлантычную асамблею і Савет Еўропы, — не паслаў наглядальнікаў для адпаведнага назірання за галасаваннем. Былы Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, які настойваў на тым, што апазіцыя мае «на сваім баку сусветнае супольніцтва», таксама прызнаў, што большасць беларусаў яе не падтрымліваюць.

У сваім інтэрв'ю пан Лукашэнка паўтарыў сваё добра вядомае перакананне, што развал Савецкага Саюза «быў бясспрэчна вялікай памылкай». «Гэта выклікала каласальную нестабільнасць у гэтым рэгіёне, за што ўсе, уключаючы ЗША, дорага заплацяць». Ён таксама з запалам гаварыў аб культурных, сямейных і эканамічных сувязях паміж Расіяй і Беларуссю — чаго не адмаўляе і цяперашняя апазіцыя. І сапраўды, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі фактычна папракае пана Лукашэнку за тое, што ён спрабуе выставіць сябе адзіным прыхільнікам цесных сувязей з Масквой.

Вядома, правядзенне рэферэндуму неабавязкова робіць які-небудзь рэжым дэмакратычным. Але з боку Захаду непаслядоўна ператвараць Беларусь у адзіную дзяржаву-партыю ў былым Савецкім Саюзе, не заўважаючы адначасова неліберальнага развіцця падзей у іншых краінах. Пры ўмове, што сам пан Лукашэнка будзе і надалей паважаць волю народа — напрыклад, пакіне сваю пасаду, калі ён перастане карыстацца яго падтрымкай, — будзе цяжка пацвердзіць неабдуманыя абвінавачанні ў «дыктатуры», што гучалі ў апошнія тыдні.

**Джон ЛАФЛЭНД.**

*Сяргей ПОСАХАЎ:*

# «РАНЕЙ ВІНАВАЦІЛІ КАМУНІСТАЎ, ЦЯПЕР ВІНАВАТАЙ АКАЗАЛАСЯ РАСІЯ...»

***Час сёння, як ніколі, палітызаваны. Штодня ўзнікаюць усё новыя і новыя праблемы. Вось і мінулая нядзеля прынесла новыя ўражанні, паказала нам новыя калізіі развіцця грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, ці мо хутчэй — толькі ў Мінску? Каментарый апошніх падзей (спецыяльна для «Звязды») дае памочнік Прэзідэнта краіны Сяргей Аляксеевіч ПОСАХАЎ:***

— Прызнацца, ужо было склалася ўражанне, што ўсякая мітусня завяршылася. Пачынаецца нармальная чарнавая праца... Ды дзе там! Многім хочацца праявіць сябе, не сядзіцца, скажам так... Яны — аўтары новых акцый — не ўсведамляюць таго, што адбываецца. Здавальняючы свае амбіцыі, яны выглядаюць вельмі смешна, а зусім не грозна, як ім падаецца. Асабліва смешна выглядае паважаны спадар Сямён Шарэцкі, калі па-пісанаму гаворыць у мікрафон, які трымае перад ім Юрый Хадыка. Быццам Агурцоў з «Карнавальнай ночы...» І гэта не мой вобраз, не мною знойдзены. Пара б ужо супакоіцца. Жаль выклікае ўсё гэта відовішча. Мне здаецца, кіруе такімі людзьмі асепленасць у выніку пазбаўлення прывілей. Бездапаможнасць у гэтых спадароў...

**— Сяргей Аляксеевіч, але ж не толькі Шарэцкі ці нехта яшчэ, скажам так, пад бела-чырвона-белымі сцягамі... Пэўная частка народа, калі хочаце...**

— Не, народ гаворыць: «Правільна мы аддалі свой голас за Прэзідэнта, за Канстытуцыю». Іншыя ж крыкі толькі яшчэ раз паказваюць, што рэферэндум, яго вынікі не выпадковыя. Людзі, гледзячы на купкі пратэстантаў, пераконваюцца, што рэспубліцы патрэбна цвёрдая ўлада. Зірніце на нядзельных выступоўцаў. Адны і тыя ж: Карпенка, Шарэцкі, Шушкевіч і іншыя... Дык калі ўсё ж такі, Божухна ты мой, гэтыя спадары зразумеюць: іх час мінуў.

Нядаўна меў размову з тымі дэпутатамі, хто падпісаўся за імпічмент.

**— І іх аргументы ў барацьбе...?**

— Маўляў, эканоміка ў заняпадзе. Крызіс з боку эканомікі дойдзе і да палітыкі. Падымецца народная хваля. Я хачу сказаць, што пры любых паваротах грамадскага лёсу ўсё адно гэтыя спадары на чале народа ўжо ніколі не стануць. І гэта пара ўжо зразумець... Хачу звярнуцца да тых, хто спрабуе зрабіць на іх стаўку: няўжо вы думаеце, што палітыкі-банкруты нечага могуць дамагчыся сілавымі метадамі? Спадары, асабліва спадары новыя лідэры, адкарэкціруйце свае праграмы, свае метады барацьбы. Не лічыце, не называйце народ бараном ці людзей — баранамі.

Навошта крыўду вешаць на сёняшніх дэпутатаў, кіраўнікоў, крыўду трымайце ў сабе, унутры саміх сябе. Будзьце больш стрыманымі. Сіла вам нічога не дасць, фізічная сіла, я маю на ўвазе.

Раней вінавацілі камуністаў, цяпер, знайшоўшы паразуменне з асобнымі камуністычнымі лідэрамі, вінаватай ужо аказалася Расія. Маўляў, яна паспрыяла чарговаму правалу.

Расія, яе народ, як толькі могуць, далікатна сябе паводзяць. Смешнымі выглядаюць пікеты пратэсту насупраць расійскага пасольства. Я зноў паўтараю і БНФ, і іншым — перастаньце праводзіць сілавыя акцыі, зразумейце, што Расія не толькі бліжэйшы сусед і партнёр, але і таварыш, і брат.

Зноў жа пра БНФ. Змяніце лідэраў. І Баршчэўскі, і Голубеў — ніхто з іх нічога добрага для гэтага руху не зробяць.

Пра камуністычных лідэраў, пра лідэраў аграрнікаў. Хопіць падстаўляць, выстаўляць усялякіх дам. Нічога станоўчага яны не ўносяць, не падаюць. Час вулічных шэсцяў і мітынгаў прайшоў. Час зневажання свайго народа прайшоў. Пара і апазіцыі станавіцца канструктыўнай, цывілізаванай.

**Запісаў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 513**

## АБ РЭАЛІЗАЦЫІ ЧАСТКІ ДРУГОЙ АРТЫКУЛА 91 КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1994 ГОДА (СА ЗМЯНЕННЯМІ І ДАПАЎНЕННЯМІ)

У мэтах выканання часткі другой артыкула 91 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) **пастанаўляю:**

1. Правесці да 17 снежня 1996 г. у кожнай вобласці і горадзе Мінску сумесныя пасяджэнні прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і адпаведных выканаўчых камітэтаў для вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

2. Правесці да 26 снежня 1996 г. сходы дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню па абласцях і гораду Мінску для выбрання членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## ВЫЗНАЧАНА СТРУКТУРА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ БЕЛАРУСІ

**Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу (парламента) Беларусі ўзначаліць савет, у састаў якога, акрамя старшыні палаты і яго намесніка, увойдуць кіраўнікі 11 пастаянных парламенцкіх камісій.**

Аб гэтым у панядзелак паведаміў «Інтэрфаксу» віцэ-спікер ніжняй палаты новага беларускага парламента Уладзімір Канаплёў.

Ён паведаміў, што ў Вярхоўным Савеце мінулага склікання дзейнічалі 16 камісій. Дэпутаты новага прадстаўнічага органа Беларусі ўнеслі прапанову скараціць колькасць камісій за кошт аб'яднання некаторых з іх.

У прыватнасці, вырашана аб'яднаць камісію па прамысловасці, транспарту і сувязі з камісіяй па эканамічнай палітыцы і рэформах, камісію па экалогіі і прыродакарыстанню з камісіяй па праблемах чарнобыльскай катастрофы, а таксама тры камісіі, якія раней займаліся рознымі аспектамі сацыяльна-эканамічнай палітыкі.

У. Канаплёў паведаміў, што канчатковае рашэнне аб фарміраванні рабочых органаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу будзе прынята на пленарным пасяджэнні палаты 17 снежня.

**Інтэрфакс.**

## МІНСКІ ГАРСАВЕТ НЕ СФАРМІРАВАНЫ

**Жыхары беларускай сталіцы ў большасці сваёй вырашылі застацца без савецкай улады.**

Паўторнае галасаванне на дадатковых паўторных выбарах дэпутатаў гарсавета не прынесла жаданага выніку — гарадскі Савет не сфарміраваны. Выбары нават пры зніжанай 25-працэнтнай планцы яўкі выбаршчыкаў адбыліся толькі ў 7 з 50 выбарчых акруг, дзе праводзілася галасаванне. Паводле папярэдніх звестак, абраны 7 дэпутатаў, якія прадстаўляюць Аб'яднаную грамадзянскую партыю, камуністаў і беспартыйных. Дэпутатамі гарсавета, у прыватнасці, сталі Георгій Таразевіч і Іван Смоляр. Такім чынам, разам з дэпутатамі, якія былі абраны раней, сёння мы маем у сталіцы толькі 43 абраннікі, пры тым, што поўны састаў гарсавета — 88 дэпутатаў.

Што рабіць у гэтай патавай сітуацыі, павінна вырашыць гарадская тэрытарыяльная выбарчая камісія. Магчыма, будуць прызначаны яшчэ адны дадатковыя выбары, каб давыбраць яшчэ хоць бы двух дэпутатаў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ПОГЛЯД*

## АПАЗІЦЫЯ ПРАВЯЛА МАСАВУЮ АКЦЫЮ Ў МІНСКУ

**У мінулую нядзелю а 12 гадзіне на плошчы Незалежнасці прайшла несанкцыяніраваная масавая акцыя — сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, якая пазней перарасла ў шэсце па тратуарах праспекта Скарыны і іншых мінскіх вуліц.**

Удзельнічала ў маніфестацыі некалькі тысяч чалавек пад бела-чырвона-белымі сцягамі. Гэта была першая масавая акцыя апазіцыі пасля рэферэндуму 24 лістапада. Дэманстранты пабывалі практычна ва ўсіх месцах, куды іх раней не прапускалі: на плошчы Незалежнасці каля будынка Дома ўрада, насупраць будынка прэзідэнцкай адміністрацыі, ля Дома радыё па вуліцы Чырвонай, ля тэлецэнтра. Маніфестанты строга падпарадкоўваліся правілам дарожнага руху, пераходзілі вуліцы толькі на зялёнае святло або праз падземныя пераходы. Сілы аховы правапарадку былі ўзаемна ветлівымі, нічым не правакавалі іх на парушэнні і ўвесь час заклікалі грамадзян разысціся, паколькі акцыя несанкцыяніраваная. Апагей шэсця адбыўся, відавочна, ля расійскага пасольства, куды маніфестанты падышлі з мэтай выказаць свой пратэст супраць умяшання кіраўніцтва Расіі ва ўнутрыбеларускі канфлікт, што паспрыяла перамозе А. Лукашэнкі. Пасольства ачапілі ўзмоцненыя сілы аховы правапарадку, а дэманстранты, паскандзіраваўшы «Ганьба Расіі!», «Незалежнасць!», «Рукі прэч ад Беларусі!», пайшлі далей.

Тэма Расіі, дарэчы, была адной з дамінуючых у выступленнях на мітынгу. Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі, пацвердзіўшы свой тэзіс аб тым, што ў Беларусі адбыўся захоп улады неканстытуцыйным шляхам, паставіў пад сумненне магчымасць далейшага супрацоўніцтва з падобнымі міратворцамі, якімі, на яго погляд, выявілі сябе кіраўнікі расійскага ўрада і палат парламента. Яго намеснік Генадзь Карпенка адзначыў, што Расія, як і чакалася, паставіла на «прагназіруемы рэжым Лукашэнкі, які абслугоўвае інтарэсы не ўласнага народа, а Расіі».

Дэпутаты, якія не ўвайшлі ў Палату прадстаўнікоў, яшчэ раз падкрэслілі на мітынгу, што яны не прызнаюць легітымнай прынятую на рэферэндуме Канстытуцыю, а кіруюцца Асноўным законам узору 1994 года. Павел Знавец заклікаў сілы дэмакратыі да масавых акцый непадпарадкавання. Г. Карпенка заявіў, што Вярхоўны Савет Беларусі 13-га склікання будзе працягваць сваю дзейнасць і што на будучым тыдні ён пачынае фарміраванне ценявога кааліцыйнага ўрада...

Тым часам апазіцыяй рыхтуюцца новыя акцыі на 10 і 22 снежня.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## АРЫШТАВАНЫЯ АДПУШЧАНЫ ПАД АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВА ЗАПЛАЦІЦЬ ШТРАФ

Паводле звестак прэс-службы ГУУС Мінгарвыканкома, органамі міліцыі на плошчы Незалежнасці, ля будынка тэлецэнтра і расійскага пасольства затрыманы 8 снежня 14 чалавек. Але паколькі яны не з'яўляюцца арганізатарамі несанкцыяніраванай сустрэчы выбаршчыкаў з дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, то і адказнасці за яе не нясуць, а абвінавачваюцца толькі ў адміністрацыйных правапарушэннях.

Пасля складання пратакола затрыманыя адпушчаны пад абавязацельства заплаціць штраф.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 514**

## АБ АДСТАЎЦЫ А. Я. ВАШКЕВІЧА

У адпаведнасці з пунктам 11 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), пунктам 1 часткі першай артыкула 18 і артыкулам $18^2$ Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» вызваліць Вашкевіча Аляксандра Яўгенавіча ад пасады суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 515**

## АБ АДСТАЎЦЫ М. М. СЕРАДЫ

У адпаведнасці з пунктам 11 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), пунктам 1 часткі першай артыкула 18 і артыкулам $18^2$ Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» вызваліць Сераду Мікалая Міхайлавіча ад пасады суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 516**

## АБ АДСТАЎЦЫ С. І. ЦІШКЕВІЧА

У адпаведнасці з пунктам 11 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), пунктам 1 часткі першай артыкула 18 і артыкулам $18^2$ Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» вызваліць Цішкевіча Станіслава Іванавіча ад пасады суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## ДА ТРАГЕДЫІ БЫЛО ПАЎКРОКУ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Самае галоўнае, што ніхто з людзей не пацярпеў дзякуючы своечасоваму ўмяшанню і пажарнага спецпадраздзялення, і службы санэпідэмстанцыі, якія зараз ужо кантралююць там сітуацыю. Вада ў дамах пакуль адключана і праводзіцца ачыстка ёмістасцей водаканала ад атрутнага рэчыва. Што ж датычыцца забеспячэння гарадка пітной вадой і вадой для іншых патрэб, то гэтай справай заняліся транспартныя службы Барысава, якія поўнасцю гэтыя патрэбы зараз задавальняюць. На думку старшыні гарвыканкома, спатрэбіцца яшчэ некалькі дзён (на ачыстку, кантрольныя замеры вады), каб нармалізаваць абстаноўку.

Як узгадвалі мы вышэй, канчаткова меркаваць аб прычынах здарэння заўчасна. Аднак зусім не выключана тое, што ртуць трапіла ў водазаборную сістэму пасля таго, як над гэтым «папрацавалі» ці то гарэзлівыя дзеці, ці то азартныя дарослыя. Між іншым, агульнавядома, што ртуць цяжэйшая за ваду і праляжаць на дне яна магла ўжо не адзін дзень, пакуль помпы не вынеслі атрутнае рэчыва на паверхню. Праўда, у тым, што з'яўленне ртуці ў вадзе, якой карысталіся людзі, гэта не пэўная «прыродная з'ява», а справа рук чалавека — сумненняў, хутчэй за ўсё, быць не можа. Цяпер высвятленнем усіх акалічнасцей гэтага выпадку і займаюцца кампетэнтныя органы. Аб выніках працы камісіі па надзвычайных сітуацыях мы паведамім дадаткова.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*ГРОШЫ*

## ДОЛАР АКТЫВІЗАВАЎСЯ

**На валютным рынку ў пачатку тыдня назіраецца актывізацыя долара. Са з'яўленнем на рынку наяўных рублёў курс USD значна вырас.**

Яшчэ ў мінулую пятніцу набыць долар ЗША па курсу 22 тысячы рублёў не ўяўлялася нечым незвычайным. Мінулі выхадныя і «бакс» падскочыў у цане на тым жа «чорным рынку» адразу на 500 пунктаў і склаў 22.500 рублёў за адзін долар. Скуплялі валютчыкі USD у асноўным па курсу 21.700 рублёў. На міжбанкаўскім рынку ў панядзелак былі больш сціплыя лічбы: курс куплі складаў 22.200 рублёў за долар, курс продажу — 22.300. Фінансавыя кампаніі працавалі з безнаяўным рублём за наяўны долар па курсу ад 22.500 да 23.100.

Што датычыцца абменных пунктаў банкаў, то асноўная цана продажу (афіцыяльная) складала 20.150 рублёў за долар. Установы, якія прадавалі USD за грыўню, зразумела, мелі «асобнае меркаванне». Так, «Белбізнесбанк» прадаваў долар па курсу 22.620, купляў — па 21.470; «Мінсккомплексбанк» — адпаведна 22.538 і 21.815. Дарэчы, хацелася б даць невялікую параду людзям, якія аддаюць перавагу набыццю валюты менавіта праз аперацыі з грыўняй: у тым выпадку, калі ў абменным пункце вам на рукі не выдаюць украінскія грошы, перш чым перавесці іх у USD або іншую валюту (магчыма, іх увогуле там няма), здзелка лічыцца парушанай з боку касіра, і ён за гэта нясе адказнасць. Адстойвайце свае правы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

**Пётр ПРАКАПОВІЧ:**

# «НАША ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА — ДАЦЬ ЛЮДЗЯМ ЖЫЛЛЁ»

***Праблема з жыллём — адна з самых вострых. Адышлі ў нябыт разам з развалам вялікага Саюза бясплатныя кватэры. З пераходам да рынку людзі апынуліся сам-насам з цяжкасцямі, якія трэба пераадольваць, самастойна вырашаючы жыллёвыя пытанні. Будаваць дамы і кватэры за асабістыя зберажэнні могуць далёка не ўсе жыхары Беларусі. З кожным годам жылых дамоў у краіне будавалася ўсё менш і менш. І толькі сёлета ўдалося змяніць гэтую тэндэнцыю і дабіцца няхай невялікіх, але станоўчых вынікаў. Што робіць дзяржава, каб дапамагчы сваім грамадзянам у набыцці жылля, у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» расказвае намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта краіны, старшыня камісіі па вывучэнню праблем жыллёвага будаўніцтва ў Беларусі Пётр Пятровіч ПРАКАПОВІЧ.***

**— Як вы ацэньваеце работу будаўнікоў у гэтым годзе і з чым звязваеце іх першыя перамогі?**

— У гэтым годзе нам упершыню за апошнія 6 гадоў удалося прыпыніць спад уводу ў эксплуатацыю жылых дамоў. За 10 месяцаў гэтага года былі заселены жылыя дамы агульнай плошчай 1 млн. 508 тыс. квадратных метраў, што ў 1,65 раза больш у параўнанні з мінулым годам. Такіх тэмпаў павелічэння аб'ёму ўводу ў эксплуатацыю жылых дамоў у нас яшчэ не было. На маю думку, гэта з'явілася вынікам пільнай увагі і пастаяннага кантролю за гэтай праблемай з боку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сёння прэзідэнцкая праграма па жыллю ўключана як адна з прыярытэтных галін у асноўныя напрамкі па развіццю эканомікі Беларусі да 2000 года. Калі ў 1995 годзе было пабудавана 1 млн. 800 тыс. квадратных метраў жылля, то ўжо сёлета плануецца здаць у эксплуатацыю жылля ў аб'ёме не менш чым 2,5 млн. квадратных метраў. У наступным годзе мяркуецца павялічыць гэтыя аб'ёмы яшчэ на 15 працэнтаў. У перспектыве да 2000 года мы павінны дасягнуць уводу жылля па ўзроўню 1990 г., гэта значыць звыш 5 млн. квадратных метраў у год.

**— За якія сродкі будзе весціся будаўніцтва ў новым годзе?**

— На будаўніцтва жылля прыцягваюцца самыя розныя сродкі. Па-першае, на гэтыя мэты будуць выкарыстоўвацца льготныя крэдыты той часткі насельніцтва, якая стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў і мае нізкія даходы. Будуць прыцягвацца і ўласныя сродкі насельніцтва, грошы людзей у выглядзе накапляльных будаўнічых зберажэнняў, фінансавыя ўліванні рэспубліканскіх і мясцовых бюджэтаў, сродкі прадпрыемстваў, якія завяршаюць будаўніцтва дамоў для сваіх работнікаў. У 1997 годзе з бюджэту рэспублікі прадугледжана адлічыць 500 млрд. рублёў для выдачы субсідый грамадзянам, якія будуюць жыллё. У той жа час у новым годзе прадугледжана выдзеліць не менш як 300 млрд. рублёў на будаўніцтва жылля людзям, якія, згодна з законам, могуць разлічваць на бясплатнае жыллё.

**— Ці выдасць Нацбанк ільготныя крэдыты прамысловым прадпрыемствам для заканчэння незавершанага будаўніцтва жылля для сваіх служачых?**

— Не, такія крэдыты Нацбанк прадпрыемствам не выдае. Ільготныя крэдыты выдзяляюцца Нацбанкам толькі для грамадзян Беларусі, якія маюць на гэта права.

**— Што ж тады рабіць небагатым заводам і фабрыкам, якія часова замарозілі будаўніцтва жылля для сваіх работнікаў?**

— У гэтым выпадку такія прадпрыемствы, пры адсутнасці знешняй крыніцы фінансавання, павінны ствараць на базе гэтых дамоў жыллёва-будаўнічыя кааператывы і перадаваць гэтыя дамы сваім людзям, якія стаяць у іх на чарзе на жыллё. Магчыма таксама перааформіць дамы ў распараджэнне гарвыканкомаў, каб тыя сфарміравалі ЖБК з людзей, якія маюць патрэбу ў жыллі, па сваіх спісах. Тым самым з'яўляецца рэальная магчымасць закончыць будаўніцтва за кошт асабістых зберажэнняў людзей, а таксама прыцягваючы льготныя крэдыты, якія будуць выдзяляцца ім дзяржавай для завяршэння будаўніцтва.

**— Што чуваць аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва, якія абясцэніліся на рахунках у Ашчадбанку? Відаць, у першую чаргу індэксацыя будзе праводзіцца тым, хто накіруе сродкі на будаўніцтва жылля?**

— Так, у гэтым накірунку падрыхтаваны праект указа Прэзідэнта, і ў хуткім часе ён будзе выдадзены.

**— У колькі разоў будуць павялічаны ўклады насельніцтва паводле гэтага праекта?**

— Дакладныя лічбы пакуль назваць немагчыма, але іх індэксацыя будзе аналагічная той, што была праведзена з укладамі ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Методыка разліку крыху іншая, але па ёй прадугледжваецца поўная кампенсацыя ўкладаў насельніцтва. Ва ўсякім разе, кампенсацыя будзе не меншай, чым пры разліках з ветэранамі ВАВ.

**— Ці магчыма арганізаваць у наступным годзе льготнае крэдытаванне грамадзян пад жыллё за кошт сродкаў камерцыйных банкаў?**

— Камерцыйныя банкі крэдытуюць насельніцтва пад будаўніцтва ўжо сёння. Аднак крэдыты выдаюцца ў іх пад вялікія працэнты, і, натуральна, бяруць іх далёка не ўсе. На практыцы аказалася, што крэдыты ў камерцыйных банках для будаўніцтва жылля бяруць толькі адзінкі. І не дзіўна, бо выплаціць 50—70 працэнтаў гадавых з даволі вялікай сумы крэдыту не кожнаму па кішэні. На жаль, на больш ільготнае крэдытаванне камерцыйныя структуры не ідуць, таму што галоўнай мэтай іх існавання з'яўляецца прыбытак. Гэта пытанне можа быць вырашана станоўча пры паступовым змяншэнні працэнта стаўкі крэдытавання. А гэта адбудзецца толькі са змяншэннем росту інфляцыі. Калі інфляцыя не будзе перавышаць 1 працэнта ў месяц, то працэнтная стаўка крэдытавання жылля знізіцца ў камерцыйных банках да прымальных памераў.

**— Якія новыя напрамкі распрацоўваюцца ў вас па жыллёвай палітыцы?**

— Па-першае, гэта льготнае крэдытаванне для тых, хто стаіць на чарзе і мае вялікую патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Для людзей, якія не стаяць на чарзе, але хочуць пабудаваць ці купіць жыллё, распрацавана сёння сістэма будаўнічых зберажэнняў па паступоваму накапленню грошай у банках. Пасля накаплення 50, 60 ці 70 працэнтаў сродкаў ад агульнага кошту кватэры банк на астатнюю суму выдае крэдыт будучаму ўладальніку. Пасля набыцця жылля кліент паступова вяртае крэдыт банку на даволі прымальных умовах. Цяпер па даручэнню Кабінета Міністраў вядзецца дэталёвая распрацоўка палажэння па сістэме будзберажэнняў. Ужо сёння некаторыя структуры вельмі інтэнсіўна пачалі займацца прыцягненнем сродкаў насельніцтва для набыцця і будаўніцтва жылля, і ў бліжэйшай будучыні гэты накірунак набудзе масавы характар.

Акрамя таго ў рамках праграмы прадугледжваецца стварыць шэраг ільгот для грамадзян і прадпрыемстваў па пытаннях падаткаабкладання, калі яны пачынаюць будаўніцтва жылля. У Палату прадстаўнікоў будзе ўнесена прапанова, каб прыбытак прадпрыемстваў і сродкі грамадзян, якія прыцягваюцца для будаўніцтва жылля, не абкладаліся падаткам. Новы накірунак павінна стварыць Міндзяржмаёмасць, распрацоўваючы механізм па прыцягненню для будаўніцтва жылля чэкаў «Маёмасць» і «Жыллё».

**— Як развіваецца жыллёвае будаўніцтва ў сельскай мясцовасці?**

— Прэзідэнцкая праграма ахоплівае праблемы жылля і ў вёсках. Па ўказу Прэзідэнта № 346 ад 2 верасня гэтага года сельскія жыхары могуць атрымліваць крэдыты пад 5 працэнтаў гадавых для завяршэння работ, калі будаўніцтва дамоў было пачата да 1 жніўня 1996 года. На гэтыя мэты ў 1996-1997 гадах Нацбанкам будзе выдзелена 600 млрд. рублёў. У наступным годзе мы будзем ствараць крэдытныя лініі і па больш позняму тэрміну пачатку будаўніцтва.

**— Ці павышаецца якасць пабудаванага жылля?**

— На сённяшні дзень у рэспубліцы існуе здаровая канкурэнцыя паміж будаўнічымі арганізацыямі. З развіццём крэдытных ліній робіцца магчымым і неабходным стварэнне новых будаўнічых арганізацый, у першую чаргу прадпрымальнікаў-прыватнікаў, якія б канкурыравалі з ужо традыцыйнымі арганізацыямі. Пры павышэнні патрабавальнасці да будаўнікоў ад заказчыка і пры жорсткай канкурэнцыі недабраякаснага жылля проста не будзе.

**— Апошнім часам цана квадратнага метра жылля пастаянна расце. Ці магчымы дзяржаўны кантроль за тэмпамі росту кошту жылля?**

— Рэгуляванне цэнаўтварэння ў нас ідзе няспынна. Так, цана на жыллё вызначаецца свабодна, згодна з заключаным дагаворам, але яна павінна грунтавацца на рэальных затратах. Калі дзесьці расходы адлюстраваны ў дакументах няправільна, то такія будаўнічыя арганізацыі будуць карацца. Пры кантролі, натуральна, асноўная нагрузка кладзецца на заказчыка. Кожны забудоўшчык плаціць за жыллё свае асабістыя грошы (крэдыты трэба будзе вяртаць) і таму павінен правяраць тыя разлікі і каштарысы, якія прадстаўляюць ім будаўнікі для кантролю. Самы галоўны кантралёр — заказчык, будучы гаспадар дома. Старшыня ЖБК можа наняць спецыяліста, які пракантралюе будаўнікоў і спыніць выкарыстанне грошай не па прызначэнню.

**— З якімі цяжкасцямі вы сутыкаецеся пры рэалізацыі жыллёвай праграмы?**

— Любая новая справа патрабуе дастаткова часу для паспяховага ўкаранення. І хоць ва ўсіх раённых аддзяленнях Ашчадбанка ёсць інструкцыі па выдачы льготных крэдытаў пад жыллё, не ўсюды яшчэ навучыліся працаваць у гэтым напрамку. Таму да нас паступае шмат пісьмаў і скаргаў ад людзей. Узнікаюць затрымкі з-за таго, што аблвыканкомы і Мінгарвыканком не зацвердзіў яшчэ спісы чаргавікоў, якія маюць права на атрыманне крэдытаў, што датычаць моладзі. А без гэтых спісаў банк не можа выдаваць крэдыты. Акрамя таго, раённыя і гарадскія выканкомы яшчэ не ўсе разабраліся, якія ўчасткі будуць выдзяляцца пад будаўніцтва жылля.

**— Ці не ўзнікне праблем з фінансаваннем 5-працэнтнага крэдыту для моладзі? Бо толькі па Мінску колькасць жадаючых атрымаць такі крэдыт перавысіла 31 тысячу чалавек.**

— Заўважу, што ў першую чаргу крэдытуецца будаўніцтва жылля, якое ўжо пачата. 30 тысяч чалавек не можа пачаць будаўніцтва адначасова. Жыллё будзе ўзводзіцца паступова. Указ Прэзідэнта аб будаўніцтве жылля для моладзі разлічаны на многія гады, і 800 млрд. рублёў, якія будуць выдадзены ў выглядзе крэдытаў у 1996-1997 гадах маладым сем'ям, не вырашаць поўнасцю ўсёй праблемы. Немагчыма выдзеліць кватэры ўсім за адзін ці два гады. Нам трэба будзе праводзіць вялікую работу на працягу многіх гадоў. Але мы спадзяёмся, што з кожным годам колькасць маючых патрэбу ў жыллі будзе змяншацца.

**Гутарыў Сяргей КУРКАЧ.**

# КРЭДЫТ ЯК МАГЧЫМЫ СРОДАК АТРЫМАННЯ ЖЫЛЛЯ

**Як мы і абяцалі нашым чытачам, газета вяртаецца да тэмы льготнага крэдытавання жылля для моладзі. Магчымасць атрымання 5-працэнтнага крэдыту пад будаўніцтва жылля ўскалыхнула даволі шырокія слаі насельніцтва. Сёння на пісьмы чытачоў і пытанні нашага карэспандэнта адказвае старшыня праўлення ААБ «Беларусбанк» Надзея ЕРМАКОВА.**

***Мая дачка з мужам жывуць у інтэрнаце гасцінічнага тыпу, плацяць за пакой вялікія грошы. Хоць працуюць яны ўдваіх, але атрымліваюць па мільёну рублёў кожны. Ці дадуць ім крэдыт для куплі жылля? Калі так, то на якую суму і як потым будуць вылічвацца працэнты?***

**Хоха Г. І., Гродзенская вобласць**

— Галіна Іванаўна, каб атрымаць крэдыт, сям'я вашай дачкі павінна быць уключана ў спісы на паляпшэнне жыллёвых умоў маладых грамадзян шляхам набыцця кватэры. Гэтыя спісы зацвярджаюцца рашэннямі аблвыканкома ці Мінгарвыканкома. Крэдыт выдаецца ў памеры да 90 працэнтаў кошту жылога памяшкання з разліку 20 кв. метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і. Карыстацца крэдытам можна да 40 гадоў, а яго выплата і працэнты па ім вылічваюцца пачынаючы з наступнага месяца пасля набыцця жылля.

Улічваючы даходы гэтай сям'і найбольш рэальным мне здаецца будаўніцтва (купля) аднапакаёвай кватэры. Напрыклад, пры атрыманні крэдыту ў суме 240 млн. рублёў плацяжы па яго пагашэнню складуць 1 млн. 27 тыс. рублёў у месяц, у тым ліку па пагашэнню крэдыту 512,8 тыс. рублёў і па ўплаце працэнтаў — 514,2 тыс. рублёў. Тут жа заўважу, што атрымаць крэдыт у памеры 240 млн. рублёў сям'я вашай дачкі зможа тады, калі прадставіць паручыцельства бацькоў ці блізкіх сваякоў.

**— Якія дакументы трэба прынесці ў банк для афармлення льготнага крэдыту?**

— Калі вы маеце патрэбу ў жыллі і занесены ў спісы на атрыманне льготнага крэдыту, спачатку трэба напісаць заяву на яго атрыманне. Акрамя гэтага патрэбен пашпарт (ці іншы дакумент), дагавор залогу набываемай вамі кватэры, абавязацельства працаздольных паўналетніх членаў сям'і па пагашэнню крэдыту, дакументы, якія пацвярджаюць мэтавае накіраванне крэдыту і кошт будаўніцтва дома (кватэры). Пры будаўніцтве кватэры ў саставе жыллёва-будаўнічага кааператыва ці маладзёжнага жылога комплексу: выпіску з рашэння выканкома аб уключэнні ў іх састаў, а таксама даведку ЖБК ці МЖК аб каштарысным кошце будаўніцтва кватэры. Купляючы кватэру ці дом, у банк трэба прынесці дагавор аб намерах пазычальніка і прадаўца аб куплі-продажы жылля. Грошы па заключанаму дагавору на выдачу крэдыту пералічваюцца па заяве пазычальніка на рахунак прадаўца пасля таго, як дагавор куплі-продажу будзе натарыяльна афармлены і зарэгістраваны.

**— Ці можна атрымаць ільготны крэдыт наяўнымі грашыма — напрыклад, у доларах — для куплі жылля ў прыватнай асобы?**

— 5-працэнтныя крэдыты выдаюцца толькі ў безнаяўным парадку ў беларускіх рублях. Ільготны крэдыт на куплю кватэры ў фізічнай асобы можна атрымаць толькі па сумеснаму рашэнню банка і райвыканкома ў межах сродкаў, прадугледжаных на гэтыя мэты.

**— Ці будуць ільготныя крэдыты з цягам часу падвяргацца індэксацыі?**

— Па выдачы льготных крэдытаў на жыллё, згодна з указамі Прэзідэнта Беларусі, іх індэксацыя не прадугледжана. Сёння індэксацыя існуе толькі па крэдытах, атрыманых незаконна.

**— Ці лёгка атрымаць субсідыю на набыццё жылля?**

— Каб атрымаць субсідыю, пішацца заява на імя старшыні раённай адміністрацыі з указаннем: для чаго патрэбна субсідыя (купля ці будаўніцтва кватэры); звестак, як будзе выкарыстана набытая кватэра; даныя аб памеры ўласных і пазычаемых сродкаў, якія накіроўваюцца на паляпшэнне жыллёвых умоў, і крыніцы іх атрымання. Заява разглядаецца на працягу месяца і пры станоўчым вырашэнні субсідыя пералічваецца на спецыяльны рахунак ААБ «Беларусбанк» на імя атрымальніка. Сродкі з гэтага рахунку выкарыстоўваюцца ў безнаяўным парадку на будаўніцтва ці куплю жылля.

**— Як адбываецца вяртанне льготнага крэдыту?**

— Пагашэнне крэдыту ажыццяўляецца штомесячна роўнымі долямі на працягу ўсяго тэрміну карыстання крэдытам, працэнты выплачваюцца таксама роўнымі долямі.

**— Які парадак спагнання крэдытаў у выпадку, скажам, хваробы ці смерці атрымальніка крэдыту?**

— Спагнаць крэдыты ў гэтым выпадку можна па трох варыянтах. Па першае, запазычанасць па крэдыту можа быць пераафармлена на паўналетняга члена сям'і, які пражывае ў кватэры, пабудаванай за кошт ільготнага крэдыту, са згоды апошняга. Па другое, крэдыт можна перааформіць на спаткаемцаў. Патрэцяе, пры адсутнасці наследнікаў ці іх нязгодзе на пераафармленне запазычанасці, банк мае права прад'явіць іск у суд да спадчыннай маёмасці.

**Адказы запісаў Сяргей КУРКАЧ.**

# ТЭЛЕФАНІСТЫ «ШАКІРУЮЦЬ» МІНЧАН НОВЫМІ ПАСЛУГАМІ

З 1 снежня на дзвюх сталічных тэлефонных станцыях пачала дзейнічаць аўтаматызаваная сістэма комплексных разлікаў з абанентамі. Гэта азначае толькі адно: пахвілінная расшыфроўка міжгародніх тэлефонных перагавораў, якую мы традыцыйна атрымлівалі па пошце і да якой усе так прызвычаіліся, перастае існаваць. З гэтага часу штомесячная абанентная плата за карыстанне гарадскім тэлефонам і міжгароднія перагаворы будуць аплачвацца ў аддзяленнях сувязі адначасова. Кантраляваць «гаварлівасць» мінчан і выдаваць у пачатку наступнага месяца вынікі будзе камп'ютэрная сістэма.

Не сакрэт, што ўвядзенне ў горадзе пахвіліннай аплаты перагавораў спадабалася не многім. Цяпер сумненняў стане яшчэ больш, і існуе адзін спосаб, каб развеяць іх: пахвілінная расшыфроўка тэлефонных размоў. Безумоўна, пры асаблівым жаданні атрымаць яе можна, але вось ці кожны пойдзе ў высвятленні «праўды» да самага канца. Бо месцаў, дзе гэта можна будзе зрабіць, амаль у двухмільённым горадзе ўсяго чатыры.

Пакуль тэлефонныя новаўвядзенні закрануць толькі тых гараджан, чые абаненцкія нумары пачынаюцца з лічбаў 250—256, 28-25—28-29 і 285. А да ліпеня 1997 года да аўтаматызаванай сістэмы комплексных разлікаў будзе падключаны ўжо ўвесь Мінск.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Валерый КОКАРАЎ:

# «ПРАМЫСЛОВАСЦЬ БЕЛАРУСІ ДАСЯГНЕ СТАНОЎЧЫХ ВЫНІКАЎ ТОЛЬКІ ПРЫ ЎМОВЕ РЭАЛЬНАГА ПЛАЎНАГА РУХУ ПА ШЛЯХУ РЭФАРМІРАВАННЯ ЭКАНОМІКІ КРАІНЫ»

**З віцэ-прэм'ерам урада Беларусі Валерыем КОКАРАВЫМ гутарыць карэспандэнт «ІНТЭРФАКСА» Уладзімір НАПРЭЕЎ**

**— Валерый Іванавіч! Нядаўна Міністэрства статыстыкі і аналізу канстатавала павелічэнне аб'ёму выпускаемай прадукцыі прамысловасці. Ці сведчыць гэта аб тым, што ў краіне назіраецца тэндэнцыя да стабілізацыі становішча ў прамысловасці?**

— Так, хоць тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці яшчэ далёка не тыя, якія хацелася б мець, але станоўчы вынік у наяўнасці.

Апаненты ўрада выказваюць наконт гэтага іншыя меркаванні. Гавораць, што прырост дасягнуты галоўным чынам у летнія месяцы, калі на вытворчасць не так моцна цісне груз паліўнай складальнай. Заяўляюць таксама, што за гэты час мы завінаваціліся расійскаму боку велізарную суму грошай за энерганосьбіты. Сапраўды, указаныя фактары зрабілі ўплыў на сітуацыю. Аднак станоўчыя зрухі адбыліся ў першую чаргу ў выніку ўкаранення нова ўвядзенняў у эканоміцы, арыентаваных на тое, каб дапамагчы прадпрыемствам больш эфектыўна адаптавацца да пачатковых рыначных умоў гаспадарання і хутчэй стаць на ногі. На гэта накіраваны шэраг указаў Прэзідэнта рэспублікі, рашэнняў урада.

Але задавальняцца дасягнутым нельга. Трэба рухацца далей больш высокімі тэмпамі. А дасягнуць іх мы зможам толькі ў выпадку рэальнага плаўнага руху наперад па шляху рэфарміравання эканомікі краіны.

Для прыкладу прывяду сітуацыю, якая склалася на Мінскім аўтамабільным заводзе. Калі яго прадукцыя цяпер яшчэ карыстаецца попытам на расійскім рынку, то праз два-тры гады нашы аўтамабілі могуць стаць у гэтым рэгіёне неканкурэнтаздольнымі. Значыць, за гэты прамежак часу неабходна правесці рэструктурызацыю прадпрыемства, прыцягнуць інвестыцыі, стварыць новыя тэхналогіі і асвоіць выпуск аўтамабіля, які будзе па-сапраўднаму канкурэнтаздольным на рынку. З гэтай мэтай мы пачынаем весці перамовы аб супрацоўніцтве з германскай фірмай «Мейнман». У планах — стварэнне і вытворчасць на базе МАЗа сумеснага аўтамабіля, адаптаванага да ўмоў работы ў рэспубліках СНД. Калі перамовы завершацца паспяхова, то ўжо ў 1998 годзе першыя аўтамабілі сыдуць з канвеера і будуць пастаўлены ў краіны СНД і ў першую чаргу, вядома, у Расію. Прыкладна ў такім напрамку павінны рухацца і іншыя прадпрыемствы. Тады праз два-тры гады мы зможам упэўнена гаварыць не толькі аб стабілізацыі, але і аб устойлівым росце ўзнаўлення.

**— Каб гэтыя планы сталі рэальнасцю, неабходна як мінімум вырашыць такую праблему, як паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў і пераадоленне крызісу неплацяжоў. Якія крокі робіць урад у гэтым напрамку?**

— Гэта праблема характэрная не толькі для Беларусі, але і для іншых дзяржаў Садружнасці. Сапраўды, калі з аплатай паставак у далёкае замежжа справы ў нас нармальныя, то ў адносінах з краінамі СНД крызіс неплацяжоў вельмі моцна цісне на прадпрыемствы. З мэтай вырашэння гэтай праблемы ў рамках Садружнасці ўжо адпрацаваны і выкарыстоўваецца механізм узаемаразлікаў.

У якасці прыкладу прывяду той жа Мінскі аўтазавод, паколькі гэта буйное прадпрыемства з'яўляецца своеасаблівым люстэркам усёй нашай эканомікі. Прыкладна 85—90 працэнтаў сваёй прадукцыі МАЗ цяпер пастаўляе на ўмовах узаемаразлікаў. У выніку прадпрыемства не толькі разлічылася за бягучае спажыванне энергарэсурсаў, але і заплаціла намнога наперад, стварыўшы сабе тым самым пэўныя гарантыі на будучыню.

Зразумела, механізм узаемаразлікаў у эканоміцы не з'яўляецца ў дастатковай меры эфектыўным, але ў якасці пераходнага варыянта ім можна і трэба карыстацца. У перспектыве, безумоўна, неабходна павялічваць скорасць абарачэння капіталаў, зніжаць затратную частку ў вытворчасці прадукцыі. Не выключана, што на макраўзроўні трэба будзе разгледзець пытанне, ці дастаткова грашовай масы знаходзіцца ў абарачэнні, і, пры адмоўным адказе, прадугледзець механізм яе павелічэння з тым, каб яна моцна не паўплывала на інфляцыйныя працэсы. Адным словам, кардынальнае вырашэнне праблемы магчыма толькі з пазіцый нармальнай рыначнай эканомікі.

**— Асабліва ў апошнія гады зіма становіцца для эканомікі рэспублікі ў цэлым і для прамысловасці — у прыватнасці, суровым выпрабаваннем. Паколькі ўжо надышла зіма, ці можна сцвярджаць, што прадпрыемствы гатовы да работы ў гэты перыяд? Перш за ўсё гэта датычыць самога паліўна-энергетычнага комплексу. Як справы з разлікамі за імпартуемыя паліўныя рэсурсы і спажываемую энергію?**

— Запазычанасць рэспублікі за выкарыстаныя энергарэсурсы складае на сённяшні дзень каля 200 млн. долараў ЗША. Я не сказаў бы, што гэтая сума настолькі вялікая, што можа паралізаваць нармальнае функцыянаванне беларускай эканомікі. У нас ёсць графік пагашэння гэтай запазычанасці, узгоднены з прадпрыемствамі, міністэрствамі і ведамствамі. Упэўнены, што калі не на 100 працэнтаў, то, ва ўсякім разе, у значнай меры мы яго выканаем і частку запазычанасці пагасім. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што расійскія суб'екты гаспадарання ў сваю чаргу павінны нам таксама немалыя грошы. Суму нашай запазычанасці за энергарэсурсы можна супаставіць з гэтым доўгам. Так што пытанне з разлікамі цалкам вырашальнае.

Што датычыць запасаў паліва, то яны ў нас створаны амаль на ўзроўні мінулага года. Трывожнай, а ўжо тым больш трагічнай сітуацыі з палівам у рэспубліцы няма.

Запасы, якія мы накапілі ў дзяржаўным рэзерве, поўнасцю забяспечаць нармальнае функцыянаванне ўсёй энергасістэмы, а таксама прамысловых прадпрыемстваў.

У бліжэйшыя два гады ўрад павінен будзе перагледзець прапорцыі спажываемых энергарэсурсаў. Маю на ўвазе нафту і газ. Калі на дадзены момант гэтыя прапорцыі складаюць прыкладна пяцьдзесят на пяцьдзесят, то з уводам у эксплуатацыю транскантынентальнага газаправода Ямал—Заходняя Еўропа баланс у бок газу можа істотным чынам зрушыцца. У лічбах гэта азначае, што, калі штогод рэспубліка спажывала прыкладна 13 млрд. кубаметраў газу, то будзе спажываць да 30 млрд. кубаметраў. Такая акалічнасць рэзка зменіць усю структуру энергетыкі краіны.

Прэзідэнт А. Лукашэнка разумее важнасць гэтай дзяржаўнай праблемы. Ён удзяляе пільную ўвагу ПЭКу. Рэгулярна наведвае нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы рэспублікі. Пабываў у нафтаздабыўных раёнах Сібіры. Многа было сказана на гэту тэму на вышэйшым узроўні і ў Мінску, і ў Маскве. Мы вельмі блізка падыходзім да прыняцця радыкальных рашэнняў: паколькі ў рэспубліцы будзе дастатковая колькасць газу, то мэтазгодна будзе рэзка знізіць спажыванне нафтапрадуктаў. Для гэтага патрэбна рэканструяваць нафтаперапрацоўчыя заводы і выпускаць больш светлых нафтапрадуктаў, якія можна будзе экспартаваць на Захад, падтрымліваючы тым самым нафтаперапрацоўчую прамысловасць Беларусі.

У сувязі з рэзкім спажываннем газу ўжо ў бліжэйшыя два гады трэба будзе інтэнсіўна заняцца газіфікацыяй прамысловых прадпрыемстваў. Калі ўлічыць, што ў параўнанні з топачным мазутам газ з'яўляецца больш танным, экалагічна чыстым відам паліва, якое пастаўляецца стабільна, робіцца зразумелым, чаму вырашэнне гэтага пытання не цярпіць адкладу. Таму ў хуткім часе ва ўрадзе будзе разгледжана праграма канкрэтных мераў па рэалізацыі стратэгіі развіцця энергетыкі ў нашай рэспубліцы.

**— Вырашэнне праблем, якія стаяць перад прамысловасцю Беларусі, патрабуе немалых інвестыцый. Урад ужо вызначыў адрасы і крыніцы першачарговых укладанняў капіталу?**

— Для таго, каб прыцягнуць інвестыцыі, трэба стварыць умовы для іх прыцягнення. Загадамі ў гэтай справе нічога не даб'ешся. Калі будуць створаны ўмовы, інвестар сам стане больш актыўна шукаць аб'екты ўкладання сродкаў. Сказанае зусім не азначае, што тут не патрэбна пэўная сістэма. У рэспубліцы існуе праграма прыярытэтных напрамкаў для ўкладання інвестыцый. Дзейнічае таксама ўказ Прэзідэнта аб прыцягненні інвестыцый у новыя тэхналогіі і прадастаўленне пад гэта значных ільгот. Як паказвае практыка, інвестыцыі, асабліва прыватныя, ідуць пераважна ў тыя вытворчасці, якія маюць недзяржаўную форму ўласнасці. Заўважу: урад актыўна стварае асяроддзе і для прыцягнення замежных інвестыцый на прадпрыемствах з дзяржаўнай формай уласнасці. Праект з аўтамабільнай карпарацыяй «Форд» — наглядны таму прыклад.

У рэалізацыі вядомага праекта ў Мазыры ўдзельнічаюць акцыянернае таварыства «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод» і расійская кампанія «Слаўнафта». Ператварэнне прадпрыемства ў акцыянернае таварыства з кантрольным пакетам акцый у руках дзяржавы прадугледжваецца і пры рэалізацыі праекта ў Наваполацку з удзелам аб'яднання «Нафтан». І такіх прыкладаў даволі многа.

Пры гэтым не трэба лічыць, што акцыяніраванне — гэта панацэя ад усіх бед. Акцыяніраванне — усяго толькі адзін шанц з тысячы, магчыма, для таго, каб выкарыстаць патэнцыяльныя магчымасці прадпрыемства і пераканаць інвестараў у тым, што грошы трэба ўкладваць менавіта сюды з мэтай атрымання высокай эфектыўнасці і прыбытковасці. Гэты шанц трэба выкарыстаць спаўна. Характэрны прыклад — Гомельскае вытворчае аб'яднанне «Карал», якое выпускае кінескопы. На сённяшні дзень яно з'яўляецца фактычна банкрутам. У выніку перамоў з амерыканскай фірмай «Уэстрэй» дасягнута дамоўленасць, што «Карал» будзе рэарганізаваны ў акцыянернае таварыства, куды амерыканскі бок гатовы інвесціраваць 24 млн. долараў для вытворчасці канкурэнтаздольных кінескопаў як для беларускай тэлевізійнай прамысловасці, так і для продажу за межы рэспублікі.

**— Прыватызацыя ў рэспубліцы ідзе не такімі хуткімі тэмпамі, як у іншых рэспубліках СНД. Ці чакаюцца кардынальныя змены ў гэтай галіне?**

— Калі прыватызацыя ў Беларусі толькі пачыналася, я лічыў, што яе трэба правесці ў максімальна кароткія тэрміны. Аднак жыццё паказала, што многія калектывы да гэтага аказаліся не гатовыя. Для паспяховага руху наперад неабходна рэалізаваць схему, калі можна так сказаць, «паўзучай» прыватызацыі з паэтапным паскарэннем. Калі пойдзем па гэтаму шляху, зможам дасягнуць па-сапраўднаму вялікіх вынікаў.

Возьмем буйныя прадпрыемствы. Каб змяніць іх форму ўласнасці, неабходна стварыць адпаведную інфраструктуру, якая ўключае ўсе элементы для эфектыўнай работы ў рыначных умовах. А для гэтага патрэбен час. Патрэбна таксама правесці рэструктурызацыю прадпрыемстваў, але не проста механічна кагосьці раз'ядноўваць, а кагосьці аб'ядноўваць, а рабіць гэта па пэўных мерках, як таго патрабуе сітуацыя. У кожным канкрэтным выпадку неабходна складаць уласную схему рэструктурызацыі і акцыяніравання прадпрыемстваў. Так робіцца ва ўсім свеце. Нельга ўсё падагнаць пад адзін шаблон. Нічога з гэтага не выйдзе. Таму прыватызацыя можа быць эфектыўнай толькі тады, калі ўсё будзе старанна прадумана і ўзважана, а ўжо затым зроблены крокі да акцыяніравання прадпрыемства і прыцягнення інвестыцый.

**— Рэфарміраванне эканомікі не з'яўляецца «аднаразовай» акцыяй. Таму ўмяшанне дзяржавы ў прамысловы сектар, відаць, будзе ажыццяўляцца не адзін год. У сувязі з гэтым якой вам бачыцца аптымальная мадэль такога «дзяржумяшання»?**

— Ніхто не будзе адмаўляць, што ў эканоміцы любой, нават сама развітой краіны бываюць сітуацыі, калі дзяржава абавязана рэгуляваць той ці іншы працэс. У нашым становішчы, на пераходным этапе, умяшанне дзяржавы павінна быць самым актыўным. Яно можа выявіцца ў тым, што дзяржава стварае калідор для манеўру суб'ектаў гаспадарання, у якім яны самі б выбралі рэжым работы. Прадпрыемствы могуць добраахвотна захаваць дзяржаўную форму ўласнасці, іншым не будзе дадзена права на акцыяніраванне ў інтарэсах дзяржавы. Аднак большасць суб'ектаў гаспадарання ўсё ж зменяць форму ўласнасці, рухаючыся ў межах, вызначаных урадам.

Калі дзяржава, назіраючы за працэсамі, якія адбываюцца на макраўзроўні, пераканаецца, што рух робіцца па-сапраўднаму дынамічным, яна можа ўнесці карэктывы ва ўмовы калідора, як таго патрабуюць час і вопыт. Пры гэтым умяшанне дзяржавы павінна быць настолькі разумным, каб максімальна садзейнічаць эфектыўнай дзейнасці суб'ектаў і выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі, якая карыстаецца попытам на рынку. Толькі так можна паспяхова рухацца наперад.



## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У шведскім горадзе Філіпстад паліцыя арыштавала чалавека, які збіраўся прыкончыць свайго суседа, нацкаваўшы на яго сваю ядавітую змяю. Суседзі сядзелі за мірнай гутаркай, якая перарасла ў спрэчку. Калі змееўладальнік вычарпаў свае аргументы, ён выцягнуў з-пад пінжака ядавітую выхаванку і пачаў ёй тыцкаць у твар субяседніка. Была выклікана паліцыя. Гаспадар змяі апынуўся ва ўчастку, а рыптылія была адпраўлена ў бліжэйшы заапарк. У крымінальнай хроніцы Швецыі гэта першы выпадак, калі ў якасці зброі нападу была ўжыта ядавітая змяя.

**Ройтэр.**

Недавучаны ветэрынар з венгерскага горада Капошвар Цібар Печы нечакана для сябе стаў папячыцелем 1010 чарапах рознага віду, якія занесены ў Чырвоную кнігу. Груз чарапах быў выяўлены венгерскай мытняй у грузавіку, які накіроўваўся з Македоніі. Чарапахі былі канфіскаваны, і цяпер кешкаюцца на гарышчы дома Цібара, чакаючы, калі ж установа па ахове навакольнага асяроддзя знойдзе ім больш прыдатнае месца.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Чаму не жэняцца французы? «Ды я баюся... разводу». Так адказалі 69 працэнтаў французскіх халасцякоў і прыкладна столькі ж незамужніх жанчын. А ўсё таму, што 73 працэнты з іх разглядаюць шлюб як вельмі сур'ёзную падзею ў жыцці. 8 французаў з 10 упэўнены, што яна азначае «абавязацельства на ўсё жыццё». Але вынік наступны: сёння ў Францыі скасоўваецца кожны трэці шлюб...

**ІТАР-ТАСС.**

## РАДЫЁ, 10 СНЕЖНЯ

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.

9.00 — «Сёння ў газетах». 9.15 — «Па родным краі». На сувязі — Гомель. 9.30 — літаратурныя чытанні. Я. Колас. «На ростанях». Старонкі трылогіі. 10.05 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг праграмы «Прамень». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся». Музычная перадача. 15.10 — музычны канал. 16.05—18.00 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». 16.05 — дыялог над разгорнутай кнігай. 16.35 — для малышоў. «Мама, матулечка — чароўныя словы». Радыёкампазіцыя. 17.00 — «Эрудыт». Клуб розных ведаў. 17.30 «У свеце чароўных гукаў». Гаворым пра класічную музыку. 18.00—18.40 — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. (18.00—19.00 — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца»). 19.00 — «Постфактум-радыё». 20.00 — «Мая музыка». 20.20 — «Сяброўка». 20.50 — вячэрняя казка. 21.00 — «Вечары на канапе». 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 0.02—1.00 — Закрыццё фестывалю «Беларуская музычная восень».

## СЁННЯ

### МЕСЯЦ

Маладзік
10 снежня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Іакава, Паладзія, Рамана.
К. Эўлаліі, Юліі.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае, без істотных ападкаў надвор'е, месцамі туман, слабы галалёд. Тэмпература ў Гродне, Гомелі, Магілёве, Віцебску і Мінску — каля нуля, Брэсце — 0—2 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 11-га — удзень і 12-га — на працягу сутак па паўночнаму ўсходу невялікі снег. Тэмпература ўначы — мінус 3—плюс 2, удзень — плюс 3—мінус 2; 12-га па паўночнаму ўсходу ўначы — 1—6, удзень 0—3 градусы марозу.

# «Я БУДУ ЛЮБІЦЬ ЦЯБЕ ДА САМАЙ СМЕРЦІ...»

**Правільна падмечана ў народзе: каханне і нянавісць ходзяць побач. Рознымі шляхамі-дарогамі ходзяць да пары да часу, пакуль не перасякуцца. Калі тое скрыжаванне адбудзецца ў нейкім адным-двух пунктах і закаханыя (хай сабе гэта і сямейныя пары) зразумеюць адзін аднаго, асэнсуюць прычыны тых перакрыжаванняў і вінавата скажуць «даруй», а другі бок у адказ працягне руку для прымірэння, гэта азначае: перамагло каханне. А калі — не? Калі на тых скрыжаваннях бясконца чуюцца брудныя словы абразы, раздаюцца аплявухі, ушчэнт разбіваецца-раструшчваецца павага да свайго каханага ці каханай? Калі любоўныя здрады адбываюцца нахабна, на вачах у людзей, на вачах у мужа ці жонкі, тады верх бярэ нянавісць, якая ўшчэнт крушыць, растоптвае каханне. І яшчэ добра, калі пасля гэтай сямейнай катаргі наступае проста развод. А здараецца ж, могуць адбыцца і трагедыі. Калі тыя здрады і здзекі кладуць чалавека ў труну. Як у двух выпадках з аднаго і таго ж раёна, аб якіх мы з сумам расказваем сёння нашым чытачам.**



## Кувалда для мужа

Вольга Сачанка закахалася ў семнаццаць гадоў, пасля заканчэння школы. І гэтае светлае, радаснае пачуццё ў яе было такое моцнае, такое трапяткое, што яна дала сабе слова: гэта — адзін раз і назаўсёды. Бо ён, яе абраннік, Сяргей Шамро такі прыгажун і такі ўважлівы і пяшчотны, што хоць ты ўвесь свет абыдзі, падобнага не знойдзеш!

Сяргей жыў у суседняй вёсцы, адкуль і прыязджаў да Вольгі на матацыкле. Пра сябе расказваць не любіў, спасылаючыся на тое, што нічога цікавага ў яго жыцці не было: цяжкае дзяцінства, затым — служба ў паветрана-дэсантных войсках (а што гэта такое — кожны ведае), вяртанне дадому. А там — адна нудота толькі: радыяцыя павыганяла моладзь з вёскі ў іншыя раёны. Толькі ты, мая Волечка, адзіная радасць і ўцеха.

Яго гарачыя пацалункі і прызнанні ў каханні так ускружылі дзяўчыне галаву, што яна верыла кожнаму яго слову і адчувала: вось яно, маё шчасцейка, мая надзея.

І раптам (зямля чуткамі поўніцца) Вольга выпадкова даведалася: Сяргей, аказваецца, жанаты. І ў яго — маленькая дачушка, якую маладая маці — жонка Сяргея — лячыла недзе ў Крыме. А ён у гэты час, выходзіць, забаўляўся з ёй, з Вольгай. Першая думка была прагнаць яго, падманшчыка, назаўсёды выкінуць са свайго сэрца, забыць пра ўсё, што было паміж імі. Так і настроіла сябе на чарговую сустрэчу з ім. Але вось прыехаў Сяргей, моўчкі выслухаў яе гнеўныя і справядлівыя словы крыўды, перамешаныя са слязьмі, вінавата апусціў галаву і ціха-ціха папрасіў прабачэння:

— Каюся. Шчыра каюся. Сам не ведаю, чаму так атрымалася. Як зайшоў першы раз у ваш клуб, так і аслупянеў: цябе ўбачыў.

Ён выцер хусцінкай свае слёзы і прашаптаў:

— Ды зразумей ты мяне, Волечка: кахаю цябе. І толькі цябе. Пачакай крыху, і мы будзем разам. Абавязкова... Вер мне...

І наколькі рашуча спачатку дзяўчына была настроена, настолькі яна была «абяззброена» пасля вось гэтага прызнання і няпрошаных слёз Сяргея.

Пачуцці закаханых разгарэліся яшчэ больш, калі Вольга адправілася на вучобу ў Бранскую вобласць. Пры любым зручным выпадку яна ляцела дадому, нібы на крылах, і чакала сустрэчы з Сяргеем з вялікім нецярпеннем. І ён тут жа з'яўляўся да яе. Абаіх не хвалявала, што іхнія спатканні — гэта нож у сэрца жонкі Сяргея, яе незагойная рана. Яны бачылі толькі сябе: ім — хораша, астатняе ж — гэта так, дробязь, пагавораць людзі, памянташуць языкамі ды супакояцца.

Тым часам аб любоўных сувязях закаханых даведаліся бацькі Вольгі і вельмі затрывожыліся: як гэта табе не сорамна, дачушка, сустракацца з жанатым чалавекам? Свет на ім клінам сышоўся?

Да просьбаў і парад бацькоў Вольга не прыслухалася. Не хацеў слухаць сваю жонку і Сяргей, працягваючы жыць з ёй, але па-ранейшаму сустракаючыся з яе саперніцай. Бачачы, што нічога не дапамагае, жанчына вырашыла нанесці візіт бацькам Вольгі, пагутарыць з імі. Тыя бездапаможна развялі рукамі: самі прыкладалі шмат намаганняў, каб адгаварыць дачку, самім сорамна за яе паводзіны перад людзьмі і перад Богам, ды толькі ўсё дарэмна. Маці Вольгі пасля гэтага зрабіла яшчэ адну адчайную спробу разарваць сувязі закаханых: у літаральным сэнсе гэтага слова апусцілася на калені спачатку (рабіла гэта паасобку) перад Вольгай, затым — перад Сяргеем. І ўсё дарэмна.

Але трэба было нешта рабіць, каб цалкам высветліць сітуацыю і, скажам так, перспектыву. Для чаго Вольга набралася смеласці і накіравалася дадому да жонкі Сяргея. Размова ішла ў час яго адсутнасці.

— Аддай Сяргея мне, — апусціўшы долу вочы, прасіла дзяўчына. — Кахаю яго бязмерна.

— І я кахаю яго, — быў адказ. — Не аддам. Ды ты і не ўжывешся з ім, сябе загубіш. Чалавек ён вельмі складаны, па натуры цяжкі. Пашкадуй мяне і маю дачушку...

А Вольга — сваё:

— Аддай. Не магу без яго.

Адным словам, перамовы не далі нічога. Тупік. І, каб выйсці з яго, Вольга зноў сустрэлася з жонкай Сяргея ў іхняй кватэры. (Сям'я Шамро пераехала ўжо тады ў райцэнтр.) На гэты раз дома быў і ён. Але той размовы, на якую разлічвала дзяўчына, не атрымалася, бо ў рэшце рэшт раззлаваная жанчына паказала ёй на дзверы. Сяргей адрэагаваў на гэта неадэкватна: ударыў жонку. Першы раз у жыцці. У выніку сваркі жонка пайшла ад яго, але праз колькі часу муж угаварыў яе вярнуцца. Паслухалася, ды толькі трэшчына ў іх узаемаадносінах распаўзалася ўсё шырэй і шырэй і ператварылася ў прорву: жанчына падала заяву на скасаванне шлюбу.

Гэта і было патрэбна «салодкай парачцы», якая праз паўгода ўзаконіла ў ЗАГСе свае адносіны і ў якой праз тры месяцы пасля гэтага нарадзіўся сынок Колька. І тут з Сяргеем Шамро пачаліся такія метамарфозы, якіх Вольга не магла прысніць нават у самым страшным сне. Яго быццам падмянілі. Працу кінуў, цэлымі днямі бадзяўся невядома дзе і дадому прыходзіў п'яны ў дым позна ўвечары. Калі маладая жонка хацела пагаварыць з ім, ашчэрваўся і гыркаў на яе, нібы сабака. Раніцай жа зноў некуды збягаў. І гэтак — кожны дзень. Грошы дадому не прыносіў, а, наадварот, патрабаваў іх ад Вольгі, пускаючы на спіртное нікчэмную дапамогу дзяржавы на сына. Паважлівы тон і пяшчота да раней горача каханай Вольгі (а яна ў яго каханне і ў гэтыя крытычныя моманты вельмі і вельмі верыла) зніклі-расталі. Больш таго, у дзверы кватэры стукаўся голад, бо Сяргей усё прапіваў.

І тады яна вырашыла паехаць жыць да бацькоў у вёску, дзе, спадзявалася, і яны дапамогуць, і муж уладкуецца на працу. Сяргея хапіла тут толькі на тры месяцы працы слесарам у мясцовым саўгасе. Работу ён кінуў, завёў новых дружбакоў-выпівакаў і ўдарыўся ў гулі. У адкрытую. Тым больш, што свабодных маладзіц у наваколлі было хоць адбаўляй. У іх ён і начаваў, у іх і п'янстваваў. Ды яшчэ нахабна, гледзячы ў твар Вользе, выхваляўся, як яму было хораша.

За гэтымі маральнымі здзекамі ішлі здзекі фізічныя: Сяргей пускаў у ход супраць безабароннай жонкі свае пудовыя кулакі. Вользе было сорамна спачатку прызнавацца ва ўсім бацькам (яны жылі асобна), і яна моўчкі насіла мужавы сінякі-гузакі. А калі не заставалася ўжо сіл цярпець, уцякала ад Сяргея. Некалькі разоў шукала прыстанішча ў роднай сястры і тройчы — у бацькоў. Крыўда, боль і роспач паступова накопліваліся ў яе душы, і яна аднойчы сказала яму: развітаемся, бо жыцця няма. У адказ той скрыгатнуў зубамі: заб'ю, а нікому не аддам!

...Дзе бадзяўся Сяргей у той выхадны дзень, Вольга не ведала.

Заявіўся ён дадому ўвечары на падпітку, пераапрануўся і пайшоў у клуб на танцы. Вольга паклала Кольку спаць і накіравалася туды ж. Муж, яшчэ недзе дабавіўшы спіртнога, выкідваў у танцах такія «конікі», што публіка хапалася за жываты, і калі Вольга зрабіла яму заўвагу, учапіўся на вуліцы ёй у горла і ледзь не прыдушыў. Яна з плачам вярнулася дадому, села за свой дзённік, які вяла, і так прасядзела колькі часу. Перад вачыма праплывалі эпізоды яе сямейнага жыцця, успаміналіся словы былой жонкі Сяргея: ён загубіць цябе...

На паперу кладліся сказы: «Хутка світанак, а цябе ўсё няма. У душы такая пустата. Мне хочацца крычаць, каб не было так балюча, так адзінока. А табе зараз добра. Цябе цалуюць, мілуюць. Табе лепш з другой. А ў мяне толькі слёзы, слёзы, слёзы... Але так хочацца твайго цяпла, тваёй пяшчоты. Чаму ты пайшоў? Чаму, мой мілы?»

У дзверы нехта пашкрабаў, і на парозе з'явіўся Сяргей. І адразу ж зароў шалёным зверам:

— Ты чаго ў клуб прыходзіла? Шпіёніць?

Ад яго рыку прачнуўся Колька, зайшоўся ў плачы, ручкамі пацягнуўся да маці. Сяргей раптам схапіў яго слабенькае цельца і, нібы шчанюка, кінуў на ложак. Вольга кошкай учапілася ў яго:

— Як ты можаш? Сына...

Ачмурэлымі вачамі ён зыркнуў на яе, працадзіў праз зубы:

— Не мой гэта сын, прастытутка... — развярнуўся і, хістаючыся, пайшоў спаць.

Вольга знямела. У галаве стукала малатком: прастытутка... Яна — прастытутка. Гэта тая, якая ведала толькі яго аднаго, Сяргея. У вушах стаяў плач Колькі і перуном біла і грымела адно толькі слова: прастытутка... Яна выскачыла на кухню, схапіла нож. Хай потым шкадуе аб сказаным, а я разану сябе па венах. А Колька што? Сіратой будзе пры такім бацьку? Не. Нешта другое трэба рабіць. Што?

Колька перастаў плакаць і толькі ціхенька хныкаў. Вольга напаіла яго малаком, выйшла ў калідор і ўзяла ў рукі кувалду. Сяргей даваў храпака. Вольга памалілася, стала перад ім, узняла кувалду і застыла ў гэтай позе на некалькі хвілін: яе адольвалі сумненні. І невядома яшчэ, чым бы ўсё скончылася, калі б муж не заварушыўся. Баючыся, што ён прачнецца і тады ёй канец, яна жахнула кувалдай яго па галаве раз, другі, трэці (усяго шэсць разоў), а потым схапіла нож і нанесла ўжо ў мёртвае цела дзевяць удараў у грудзі і два — у шыю.

Крымінальная справа дваццацігадовай забойцы разглядалася і пераглядалася некалькі разоў. Канчатковы прыгавор ёй — восем гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.

## Карцеч для жонкі

Недзе пасля абеду дзед Антось выйшаў на агарод падрамантаваць крыху агароджу. І толькі пачаў работу, як пачуў нейкую падазроную валтузню ў прыдарожнай меліярацыйнай канаве, што праходзіла ля самай вёскі. Напэўна, ён не звярнуў бы на яе асаблівай увагі (хлапчукі-свавольнікі тут нярэдка гуляюць у «вайну»), калі б праз дзве-тры хвіліны адтуль не данёсся нейкі радасны жаночы стогн. Потым яшчэ і яшчэ. Цікаўнасць разабрала старога, і ён, на ўсякі выпадак прыхапіўшы рыдлёўку (мала што там можа быць!), ціхенька рушыў да ўзвышанага месца, дзе і заняў назіральны пункт.

І адразу ж збянтэжыўся: на дне канавы сярод пажухлай травы (на двары стаяў кастрычнік) ляжалі мужчына і жанчына і займаліся каханнем. А тут міма дзядулі прайшла яго суседка — выносіла вядро са смеццем у канаву, і Антось, буркнуўшы ёй нешта накшталт таго, каб яна, маўляў, з таго смецця зрабіла любоўнікам пасцель, плюнуў сабе пад ногі (пошасць якая, дажыліся!) і паклыпаў на агарод.

А праз колькі хвілін да канавы ўжо спяшаўся народ, займаў зыходныя пазіцыі для прагляду натуральнага сексуальнага дзейства. Хлапчукі нават на агароджу пазалазілі. Невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б камусьці ў галаву не прыйшла думка паклікаць старшыню сельсавета: бессаромнікі ў канаве нахабна разбэшчваюць народ, а ўлады маўчаць. Непарадак! Некалькі маладзіц, лёгкіх на пад'ём, тут жа паімчалі ў сельсавет і прывялі яго старшыню.

Тая адразу ж пазнала палюбоўнікаў: Клаўка Гнедзіна і Васька Тубылец (прозвішчы тут і далей па вядомых прычынах зменены). Яму што — халасты, нежанаты, а ў яе ж мужык ёсць — талковы, сур'ёзны — і двое дзяцей. Да таго ж, лічы, старшыня ім радня, кума ў Гнедзіных. Першая думка ў яе была разбудзіць палюбоўнікаў, побач з якімі валялася бутэлька з-пад выпітай гарэлкі, ляжала сякая-такая закусь. Але расштурхаць «салодкую парачку» не ўдалося, і старшыня накіравалася да хаты Гнедзіных.

Аляксандр якраз быў дома і знаходзіўся ў глыбокім задуменні. Учора яго паслалі з саўгаса ў камандзіроўку ў Малдову, ды вось на беларуска-украінскай мытні давялося завярнуць аглоблі назад: дакументы былі аформлены няправільна. Прыехаў дадому позна ўначы — Клаўкі няма. Спытаў раніцай у дзяцей, сказалі, што вечарам была, спаць іх паклала. Пайшоў на работу ў трывожных думках: дзе магла падзецца і што гэта азначае? Прыйшоў дадому, згатаваў абед, накарміў жыўнасць — жончынай нагі за час яго адсутнасці ў хаце не было. Дык дзе ж яна?

— Саша, — сказала старшыня сельсавета, — ідзі забяры сваю Клаўку ў канаве. Спіць з Тубыльцам.

Пайшлі, і ўвесь час Гнедзіна даймалі ганьба і сорам: гэта ж трэба, да чаго дакацілася! Вёска ў вочы смяяцца будзе, пагалоска папаўзе па раёну, а ўсюды знаёмыя, радня... Вось уліп з гэтай жаніцьбай, дык уліп. Хаця што? Калі б ведаў, дзе ўпадзеш, дык саломкі падаслаў бы.

Народ яшчэ ад канавы не разышоўся, вісеў над ёй. Адны сустрэлі Аляксандра са спачуваннем, другія — з маўклівай зларадаснасцю, трэція — з насцярожанасцю: што будзе рабіць гэты раганосец? А ён толькі зірнуў туды, з адчаем махнуў рукой, што, відаць, азначала: хай сабе праспяцца — і пашыбаваў дадому.

Перад вачамі стаяў туман, цела ахапіла нейкае здранцвенне, падкошваліся ногі, і ён баяўся, каб не ўпасці на зямлю ад крыўды і сораму, душэўнага болю і завыць сумна-сумна, як у Піліпаўку выюць ваўкі там, за калючым дротам, што аддзяляе адселеную радыяцыйную зону ад іхняй мясцовасці. Дома абхапіў галаву рукамі, і перад яго вачыма паплылі эпізоды сумеснага з Клавай жыцця.

...Пазнаёміліся Аляксандр з Клавай, адзінай дачкой у маці, якая ніколі не мела мужа, пятнаццаць гадоў назад і пакахалі адзін аднаго. Праз тры месяцы пасля вяселля на свет з'явілася дачка, а праз тры гады і сын. Першыя дзевяць гадоў сям'я Гнедзіных жыла душа ў душу, на зайздрасць многім. Аляксандр быў механізатарам шырокага профілю, Клава — прадаўшчыцай у магазіне. Зараблялі дастаткова, вялі сваю гаспадарку, набылі легкавушку, матацыкл. Калі выбухнула ў Чарнобылі, Аляксандр цэлымі суткамі вывозіў з небяспечнай зоны жывёлу, механізмы, абсталяванне. А потым прыйшла чарга перасяляцца і іхняй вёсцы.

Так Гнедзіны апынуліся на Міншчыне, дзе атрымалі і жыллё, і работу. Ды толькі Клава хутка засумавала: усё тут чужое. Давай, Сашок, на радзіму вернемся, у свой раён. Пераехалі, уладкаваліся як след. Але вось бяда: Клава пачала выганяць радыяцыю спіртным, ды так захапілася, што ёй выказалі недавер у магазіне і папрасілі з работы. Стала падмятаць у клубе, ды п'янку не кінула. Дайшло да таго, што пачала прадаваць хатнія рэчы, аціраццa ў падазроных кампаніях, забываць аб дзецях.

Маці яе параіла тады Аляксандру адправіць Клаву на лячэнне ад алкагалізму, ды ён не рашыўся на гэты крок, спадзяваўся, што сама возьмецца за розум. А потым пайшлі шлюбныя здрады. Хто-ніхто падказваў Аляксандру паназіраць за жонкай, але ён не верыў нікому да таго часу, пакуль не заспеў яе ў чужых абдымках на верандзе ўласнага дома. Гэта здарылася пяць гадоў назад, калі ў чатыры гадзіны раніцы ён вярнуўся з камандзіроўкі са Стаўрапольскага края. Гнеў і лютасць кіравалі тады яго дзеяннямі, і ён кінуўся ў пакой па стрэльбу. А калі зноў выбег на веранду, палюбоўнікаў і след прастыў.

Цэлы месяц, а можа і больш жыў Аляксандр у сваёй маці. Клава некалькі разоў прыходзіла туды прасіць прабачэння — п'янка вінаватая, маўляў, але нічога падобнага больш не паўторыцца. І ён паверыў ёй, вярнуўся ў сям'ю, не крануўшы здрадніцу нават пальцам.

А цяпер атрымлівай, раганосец!

Па меры таго, як звычайна спакойны і ўраўнаважаны Аляксандр пракручваў усё гэта ў сваёй галаве, у яго душы, нібы снежны камяк, нарастала злосць. І вось ужо штармавая хваля шаленства дайшла да самай высокай кропкі, і ён ліхаманкава дастаў з-пад шафы стрэльбу, машынальна пагладзіў яе варанёны ствол і пачаў старанна зараджаць два патроны паўкарцеччу — для Клавы і Васіля. Потым ускочыў у сядло матацыкла і на шалёнай скорасці паімчаў на ўскраіну вёскі.

Вядомы ўсім сяльчанам 28-гадовы выпівака Васіль Тубылец у гэты час ужо прачнуўся і, нацягнуўшы штаны, апраўдваўся перад жанчынамі, якія дапякалі яго: ты што, жарабец, сям'ю разбіваеш? Той толькі нахабна ўхмыляўся і, варочаючы дубовым языком, тлумачыў, што Клаўка сама напрасілася да яго з сябрам на выпіўку. А потым усё было ў добраахвотным парадку, бо яна яго спакусіла.

Убачыўшы Тубыльца, Гнедзін спыніў матацыкл і, не заглушаючы рухавік, ірвануў з-за пляча двухстволку. Васіль, сціснуўшыся ў камяк, з каменным тварам пайшоў яму насустрач, жадаючы, відаць, нешта растлумачыць. І тут грымнуў стрэл. Не марудзячы ні секунды, Аляксандр у тыгрыным скачку пераадолеў адлегласць да ўсё яшчэ спячай Клаўкі і зноў разрадзіў стрэльбу. Народ кінуўся ўрассыпную, а ён — да матацыкла і віхурай паімчаў прэч, сутаргава хапаючы ротам паветра і не выціраючы слёзы, якія градам ліліся з яго вачэй.

Як канстатавала судова-медыцынская экспертыза, палюбоўнікі, «якія знаходзіліся ў цяжкай ступені ап'янення, сканалі на месцы: ён — ад чатырнаццаці і яна — ад васемнаццаці шротавых зарадаў, якія праламалі ім рэбры і прабілі сэрцы, лёгкія і печань».

Суд над забойцам, які меў бездакорнае мінулае і характарызаваўся выключна станоўча, праходзіў доўга і цяжка. Яго дзеці і жыхары вёскі прасілі памілаваць Аляксандра Гнедзіна. Ды і сам ён лічыў сябе невінаватым. Але суд, улічваючы ўсе абставіны крымінальнай справы, прыгаварыў яго да шасці гадоў пазбаўлення волі ў ППК агульнага рэжыму.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ,**
*Хойніцкі раён.*

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 46 (65)






*Даччынае прадпрыемства **«Кантракткамплект»** і яго Полацкі філіял **ліквідуюцца.** Прэтэнзіі прымаюцца на працягу 2 месяцаў з дня апублікавання аб'явы.*

Утерянное удостоверение старшего лейтенанта ПВО, выданное на имя **Крисковца Артема Григорьевича,** считать **недействительным.**



## ПРАДАЕЦЦА:

- цагляны дом у г. Ганцавічы без унутраных работ (маецца гараж, падвал).
  *Тэл. 54-3-55;*
- падпісныя выданні: Талстога, Гогаля, Чэхава, Караткевіча, Быкава, Лынькова, Адамовіча.
  *Тэл. у Вілейцы 5-31-06, па суботах з 10 да 16 гадзін;*
- зруб лазні 3,5х3,5, танна, тэрмінова. Звяртацца: в. Ржаўка Слаўгарадскага раёна.
  *Тэл. 46-4-83;*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі, садам і агародам (23 соткі) у г. Мсціславе Магілёўскай вобл.
  *Тэл. у Мінску (017) 261-58-33;*
- дом, агарод 60 сотак у в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна (50 км ад г. Полацка).
  *Тэл. у Гомелі 51-78-06;*
- дом з прысядзібным участкам у в. Кашчэлічы Гародзькаўскага сельсавета.
  *Звяртацца: г. Валожын, вул. Пушкіна, 47-2;*
- сінтэзатар FUJIYA MC-3A.
  *Тэл. у г. Лідзе 4-27-93 (Лена);*
- баян «Растоў-Дон» і электрашафа «Смотрыч», танна (усё новае).
  *Тэл. у Чавусах 2-61-68;*
- дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі, сад, агарод 25 сотак у в. Каменка Узденскага раёна.
  *Тэл. 33-4-72;*
- дача, драўляны ашаляваны дом з гаспадарчымі пабудовамі, сад, ля станцыі Татаршчызна пад Маладзечнам.
  *Тэл. у Мінску 252-78-47;*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі ў Нясвіжскім раёне побач з аўтадарогай Брэст—Мінск.
  *Тэл. у Дзяржынску 4-01-48;*
- пялёнкі (10 шт.), касцюм (28-ы размер), боты жаночыя «Белвест».
  *Тэл. 244-79-65;*
- зруб 6х8, страпільная сістэма ў Лагойску.
  *Тэл. (8-274) 54-4-30, пасля 18.00;*
- рухавік да «Аўдзі-80», «Фольксваген-Пасат» на запчасткі.
  *Звяртацца: тэл. (8-272) 43-4-92 да 9 ці пасля 18 гадзін;*
- аўтамабіль «ВАЗ-21011», 1975 г. в., у выдатным стане, бэжавага колеру, танна;
  дзіцячая імпартная каляска (б/к) сіняга колеру, танна.
  *г. Міёры, тэл. (8-252) 2-10-92;*
- аўтамабіль «ВАЗ-21011», 1978 г. в., на ходу, 1300 $;
  аўтапрычэп «Няміга», 1990 г. в., 250 $;
  мапед «Рыга-13».
  *Тэл. (8-215) 23-5-97, г. Масты;*
- матацыкл «Днепр-МТ10» у добрым стане, дадатковы рухавік.
  *Тэл. у Іванаве 36-2-27;*
- аўтамабіль «Масквіч-21406», сельскі варыянт.
  *Тэл. (8-270) 5-66-69;*
- дача драўляная з мансардай, гаражом 6х6 на р. Нёман Мастоўскага раёна.
  *г. Масты, тэл. 23-5-97;*
- кватэра 3-пакаёвая ў г. Ганцавічы Брэсцкай вобл.
  *Тэл. (8-246) 2-22-56;*
- аўтамабіль «Таўрыя», 1995 г. в., прабег 9000 км, 4-дзверная. Званіць у Мазыр вечарам і па выхадных.
  *Тэл. 2-45-43;*
- аўтамабіль «ГАЗ-53» («кунг»), 1984 г. в. Цана дагаворная.
  *Тэл. у Лагойску (8-274) 54-4-30 пасля 18.00;*
- аўтамабіль «Таўрыя» на запчасткі, альбо куплю кузаў на «Таўрыю» (ці пасля аварыі).
  *Тэл. у Калінкавіцкім раёне 63-3-50;*
- кабыла, 6 гадоў, гнядой масці. Ст. Радашковічы, в. Туркаўшчызна.
  *Тэл. у Мінску 223-95-24;*
- вагон-магазін, новы (сігналізацыя, рашоткі на акне, умывальнік, паліцы), цана 1500 $.
  *Тэл. (8-0212) 61-91-92;*
- новы дом з мансардай (без унутраных работ) у г. Івянцы, участак 8 сотак, танна.
  *Тэл. (8-293) 34-4-52 увечары;*
- зруб дома 4х5, лес свежы, чэсаны на 18 см, «паламаны» дах. Звяртацца: 220813 Магілёўская вобл., Глускі раён, в. Барбарава. Фёдараву У. М.
  *Тэл. у Мінску 262-69-36;*
- прычэп, касілка да мотаблока «МТЗ».
  *Тэл. у Мінску 232-98-98.*

## РОЗНАЕ

- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Жыткавічах на 2- ці 1-пакаёвую ў Гомелі, магчымы варыянты.
  *Тэл. у Жыткавічах (8-253) 2-28-96,*
  *у Гомелі (8-234) 7-83-20;*
- Выконваю кантрольныя работы па матэматыцы, фізіцы, інфарматыцы. Рэпетытар па матэматыцы.
  *Воранава, тэл. 71-1-59.*
- Прыму ў падарунак аўтамабіль.
  *Прапановы ў пісьме: 211930 г. Міёры, вул. Лермантава, д. 6, кв. 2.*
- Мяняю саджанцы буйнаплоднай маліны (як сліва) на саджанцы родадэндронаў.
  *Звяртацца: 231232 Гродзенская вобл., Астравецкі раён, п/а Падоньцы. Юховіч І. В.*
- Куплю пячныя дзверцы (вялікія і малыя, але абавязкова двайныя); кафлю пячную (можна б/к, але ў добрым стане, танна).
  *222698 Мінская вобл., Стаўбцоўскі раён, в. Белькаўшчына, д. 41. Стоме А. А.*
- Купім сёдлы б/к і збрую для верхавых коней, танна.
  *Тэл. 221-13-70, Лена.*
- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Карма (43 кв. м) на аднапакаёвую ў г. Мінску.
  *Тэл. у Карме 2-15-53.*
- Аказваем аўдытарскія паслугі.
  *Тэл. 227-94-46.*
- Вышлю 2-томнік сачыненняў Лермантава, самавучыцель машынапісу, пласцінку Ларэці — усё ў выдатным стане. Ад вас — канверт са з/а, 1 чысты купон.
  *223310 Беразіно, п/с 681034.*
- Работа на даму, ад вас — канверт з з/а і купон бясплатнай аб'явы.
  *Звяртацца: 222310 г. Маладзечна-4, а/с 22.*
- Работа на даму (укладанне каталогаў), ад вас — канверт са з/а і купон бясплатнай аб'явы.
  *Звяртацца: 220073 г. Мінск, а/с 26.*
- Работа на даму, ад вас — канверт і купон бясплатнай аб'явы.
  *Звяртацца: 223310 Беразіно, а/с 681034.*
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў в. Бароўка Віцебскай вобл. на кватэру ў Казані.
  *Тэл. у Лепелі 2-77-93, у Казані 42-21-41.*
- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Бабруйску на кватэру ў г. Мінску, альбо прадам. Маецца хлеў, пограб, тэлефон.
  *Тэл. у Мінску 237-86-59.*
- Выканаем разныя рамы для люстэркаў, балясіны з ясеню для лесвіц, разныя столікі.
  *Тэл. (8-02155) 21-8-73, 21-9-97.*

## ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншуем з 80-годдзем дарагую матулю і любую бабулю **Марыю Канстанцінаўну Бязмен.** Жадаем моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.*

**Дзеці, унукі і праўнукі,** в. Краўцэвічы.

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння і 36-годдзем сумеснага жыцця **Паўла Мікалаевіча** і **Таццяну Аляксееўну Рылач**. Мы ўдзячныя вам за турботы, клопаты і ласку. Жадаем здароўя, міру, даўгалецця.*

**Сыны, дочкі, зяці, нявесткі, унукі,** в. М. Чучавіцы.

***Людмілу Данілаўну Касцюкевіч** з днём нараджэння віншуюць дочкі Віка і Жэня (г. Светлагорск).*

Мілая мамачка, сонейка наша,
не лічы ты гады, нам свяці ты заўжды.

*Віншую з 82-годдзем любую бабулю **Кацярыну Іосіфаўну Піліпчык** з в. Шацк. Жадаю здароўя, радасці жыцця, дабрабыту.*

**Унучка Юля.**

*Віншуем з днём нараджэння любую жонку і маці **Людмілу Мікалаеўну.** Дзякуй за тое, што ты ёсць, што сваёй дабрынёй і пяшчотай робіш нас самымі шчаслівымі ў свеце.*

**Нікалаевы,** *г. Мядзель.*

*Ад усяго сэрца віншую **Веру Міхайлаўну Ламокіну** з Гродна з юбілеем. Жадаю моцнага здароўя, радасці, любові і дабрабыту ў сям'і.*

**З павагай Аня Лукавецкая.**

*Віншуем дарагога мужа, татачку і дзядулю **Францішка Янавіча Мозаля** з 70-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, сын, нявестка і ўнукі,** *г. Ліда.*

*Дарагая **Тамара**! Віншуем цябе з днём нараджэння.*

Жадаем ад сэрца, што можам жадаць,
Каб гора ніколі табе не спазнаць,
Каб лёс толькі шчасце табе даравау,
Ды шляху ліхога ніколі не знаў.

***Сяброўкі Валя, Марына, Аксана***
*з в. Забрэззе Валожынскага раёна.*

- Бригада Врублевского, отзовитесь.
  *Віцебская вобл., Докшыцкі раён, п/а Замасточча. Тэл. 2-70-14. Саладкевічу В. А.*

## Асабістае жыццё

**Аб. 226.** Сімпатычная, паўнаватая маладая асоба пазнаёміцца з мужчынам (ад 24 гадоў, не ніжэй, чым 170 см) для стварэння сям'і. Зняволеным не пісаць. Пажадана фота, якое вярну, пажадана з Мінскай вобласці, Мінска.

**Аб. 227.** Мужчына, юрыст па адукацыі, пазнаёміцца з мэтай стварэння сям'і з жанчынай да 30 гадоў, без дзяцей. Аб сабе: 36/180/90. Пісаць: 220040 г. Мінск-40, а/с 367.

**Аб. 228.** Высокі мужчына чакае пісьма, фота ад стройнай жанчыны да 48 гадоў, згоднай на пераезд.

**Аб 229**. Малады хлопец, 26/180/62, у гэты момант знаходжуся ў месцы зняволення. Жадаю пазнаёміцца з дзяўчынай да 28 гадоў. Фота абавязкова.

**Аб. 230.** Пазнаёмлюся для стварэння сям'і з жанчынай з г. Салігорска. Пра сябе: жыхар сельскай мясцовасці, 47 гадоў, Рыбы, Тыгр, Сасна.

**Аб. 231.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з дзяўчынай або жанчынай да 36 гадоў (можна з дзецьмі да 5 г.), высокай, цёмнавалосай. Пра сябе: 34/185, халасты, жыллём забяспечаны, добры, не п'яніца. г. Мінск.

**Аб. 232**. Хачу пазнаёміцца з добрай, прыстойнай, сціплай дзяўчынай. Пра сябе: 26/178, не п'ю, не куру, жыллём забяспечаны.

**Аб. 233**. Пазнаёмлюся з мужчынам да 45 гадоў для стварэння сям'і. ***Аб. 233.*** *Дашліце, калі ласка, свой адрас у рэдакцыю.*

## Шукаем сведкаў

3 снежня 1996 г. прыкладна ў 21 гадзіну на 30-м кіламетры шашы Мінск—Мікашэвічы паблізу вёскі Жмакі Уздзенскага раёна зроблены наезд на пешахода Макрушыну Н. М., якая ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерла. Вадзіцель, які зрабіў наезд, з месца здарэння ўцёк у бок Мінска.

Ва ўчыненні ДТЗ падазраецца аўтамашына замежнай вытворчасці светлага колеру, як мяркуецца, «Опель», на якім могуць быць пашкоджаны правая пярэдняя фара, капот, лабавое шкло і шклоачышчальнік.

Сведак і відавочцаў гэтага дарожна-транспартнага здарэння просім паведаміць у ДАІ Мінскай вобласці па тэлефонах: 259-14-44, 254-42-44, 259-16-57.

**ДАІ УУС Мінгарвыканкома.**

## Барыс ГРАНКІН:

# «МЫ ЎМЕЕМ І ХОЧАМ ПРАЦАВАЦЬ ЭФЕКТЫЎНА»



***Над высокай кручай Сожа, побач з гарадскім паркам, на пачатку галоўнай магістралі Гомеля — вуліцы Савецкай — узвышаецца трохпавярховы будынак фабрыкі «Палесдрук», першынца сацыялістычнай індустрыі, аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасці рэспублікі, якое вырабляе папярова-белавую прадукцыю: агульныя сшыткі, школьныя дзённікі, запісныя кніжкі, календары, блакноты, альбомы для малявання і фота, наборы каляровай паперы і кардону, розныя папкі. Фабрыка адначасова выконвае і функцыі абласной друкарні. Тут друкуюцца шаснаццаць дробнатыражных газет, робяцца пад заказ плакаты, афішы, брашуры, этыкеткі, бланкі, візіткі, вырабляюцца штампы і пячаткі.***

***Адным словам, асартымент прадукцыі вельмі разнастайны — больш як сто дзесяць найменняў, прычым кожны год тут распрацоўваюцца 10—12 новых відаў прадукцыі. Вырабы вызначаюцца высокім узроўнем мастацкага выканання і актуальнасцю і атрымалі добрую ацэнку пакупнікоў.***

***Сёлета ў фабрыкі юбілей. 21 снежня яе калектыў адзначыць 75 гадоў з дня заснавання прадпрыемства. Аб гісторыі яго развіцця, працоўных здабытках, праблемах мы папрасілі расказаць дырэктара «Палесдрука» Барыса Уладзіміравіча Гранкіна. Прыйшоў ён на фабрыку семнаццаць гадоў назад пасля заканчэння Львоўскага паліграфічнага інстытута і паступова прафесіянальна рос: быў майстрам, інжынерам-тэхнолагам, начальнікам цэха, галоўным інжынерам і ўжо трэці год працуе дырэктарам. Завочна атрымаў яшчэ адну вышэйшую адукацыю, а зараз вучыцца ў аспірантуры.***

**— БАРЫС УЛАДЗІМІРАВІЧ, тры чвэрці стагоддзя для любога прадпрыемства, згадзіцеся, падзея знамянальная і, напэўна, багатая як на добрыя справы, так і на праблемы, якіх, як і ў кожнага працоўнага калектыву, хапала і хапае. Відаць, і ў вас гэта так жа?**

— Вядома ж. Гісторыя фабрыкі сапраўды багатая яркімі старонкамі працоўнай актыўнасці і доблесці, аб чым хачу расказаць больш падрабязна і аддаць належнае нашым папярэднікам — працаўнікам прадпрыемства. Яно было створана пастановай Гомельскага губернскага Савета на базе некалькіх гарадскіх друкарняў 21 снежня 1921 года як дзяржаўная друкарня-палітаграфія са спісачнай колькасцю працуючых дзевяцьсот чалавек. Ужо праз два гады былі набыты дзве наборныя і адна фальцовачная машыны, новыя шрыфты, абсталявана электрастанцыя, дзякуючы чаму прадукцыйнасць друкарні дасягнула дзесяці мільёнаў літар і трох мільёнаў адбіткаў у месяц.

Гомельскія друкары першымі ў рэспубліцы датэрмінова выканалі першую пяцігодку. Прычым за два з паловай гады. І за гэту выдатную перамогу Прэзідыум Саўнаркома БССР пастанавіў узнагародзіць яе калектыў ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. У даваенны час на фабрыцы панаваў вялікі энтузіязм яе працаўнікоў.

**— З першых дзён вайны ў Гомелі друкаваліся ўсе рэспубліканскія газеты...**

— Так. Суровыя гады Вялікай Айчыннай — гэта яшчэ адна яркая старонка калектыву фабрыкі, які працаваў тады напружана і самаадданa. На ёй быў арганізаваны спецыяльны цэх па выпуску ілюстраваных лістовак на нямецкай мове, якія потым распаўсюджваліся на фронце сярод салдат і афіцэраў праціўніка. І акрамя рэспубліканскіх газет па просьбе камандавання 21-й Арміі гомельскія друкары выпускалі таксама армейскую газету «Баявы лісток». Калі ж вораг наблізіўся да горада, асноўная частка фабрыкі была эвакуіравана ў тыл, у Пермскую вобласць.

А акупацыі горада гітлераўскімі войскамі на прадпрыемстве была створана падпольная група рабочых, якую ўзначаліў інжынер-паліграфіст Цімафей Сцяпанавіч Барадзін. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам патрыёты правялі шэраг смелых аперацый па падрыву майстэрань па рамонту танкаў, складоў з гаручым і знішчэнню жывой сілы ворага. На вялікі жаль, праз адзінаццаць месяцаў падпольшчыкі былі схоплены фашыстамі і расстраляны. У дзень дваццацігоддзя Перамогі над Германіяй Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Барадзіну было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, і ён навечна занесены ў спісы работнікаў фабрыкі.

**— Відаць, пасля вайны спатрэбілася шмат часу, каб фабрыка аднавіла сваю работу?**

— Адразу пасля вызвалення горада пачаліся аднаўленчыя работы, а ўжо праз чатыры месяцы — такія былі энтузіязм і дзелавая арганізаванасць людзей — фабрыка пачала выпускаць масавую друкаваную прадукцыю, і праз паўтара года яна была цалкам адноўлена. Аб сямімільных кроках яе развіцця сведчыць тое, што з 1946 па 1956 гады валавы аб'ём прадукцыі ўзрос больш чым у дваццаць два разы.

Усё тое, што было зроблена, у газетнай публікацыі немагчыма пералічыць. Аднак назаву толькі некаторыя дасягненні фабрыкі. Былі ўкаранёны новыя тэхналогіі і працэсы, устаноўлена высокапрадукцыйнае, сучаснае па тым часе абсталяванне, праведзена вялікая работа па механізацыі дапаможных работ і г. д. Павышэнне тэхнічнага ўзроўню вытворчасці, клопаты аб паляпшэнні якасці выпускаемай прадукцыі, пастаянны рост прафесіянальнага майстэрства рабочых, ІТР і служачых, умелая работа з кадрамі з боку яе кіраўнікоў, многія іншыя фактары забяспечвалі поспех калектыву. Дастаткова сказаць, што ў розныя часы фабрыка была ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, заваявала званне прадпрыемства высокай культуры вытворчасці, выходзіла пераможцам сярод паліграфічных прадпрыемстваў СССР з уручэннем пераходнага Чырвонага сцяга Камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры. На сродкі фабрыкі былі пабудаваны некалькі шматкватэрных дамоў, дзіцячы садзік, піянерскі лагер на 130 месцаў, санаторый-прафілакторый, у якім штогод адпачывала больш двухсот нашых працаўнікоў.

**— Старонкі біяграфіі вашага прадпрыемства сапраўды цікавыя, а справы калектыву — слаўныя. Падтрымліваць і памнажаць іх працоўнымі здабыткамі сёння, у вядомых эканамічных цяжкасцях, думаецца, няпроста...**

— Каб толькі ўсё залежала ад нашага калектыву, упэўнены на ўсе сто працэнтаў, такіх цяжкасцей, як зараз, у нас не было б, таму што персанал наш творчы, старанны, стабільны і гібкі. Ён хоча і ўмее працаваць, не забываючы пра тое, што яго папярэднікі хаця жылі і працавалі ў куды горшых умовах, але пры гэтым дабіваліся нязменных поспехаў. Гэту традыцыю мы будзем працягваць і далей.

Дык вось, наш калектыў — гэта 324 чалавекі, удвая меншы, чым быў да сумна вядомай перабудовы, развалу былой вялікай і магутнай краіны і ўсталявання так званай рынperiodнай эканомікі. Страта такой вялікай колькасці людзей тлумачыцца, у асноўным, тым, што скараціліся рынкі збыту нашай прадукцыі. І вось для таго, каб не толькі выжыць, але і жыць, мы пастаянна шукаем шляхі больш эфектыўнай работы, каб паспяхова канкурыраваць на рынку.

**— І наколькі гэта ўдаецца?**

— У апошнія гады асноўную ўвагу калектыў удзяліў укараненню апошніх дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу. У прыватнасці, набылі камп'ютэрную тэхніку і перайшлі на камп'ютэрны набор і вёрстку газет і іншых вырабаў замест непрадукцыйнага гарачага набору друкаванай прадукцыі. Камп'ютэрамі аснашчаны і аддзелы прадпрыемства. Так што можна сказаць, што ў нас усё завязана ў электронную сетку і мы маем магчымасць хутчэй атрымліваць і апрацоўваць інфармацыю і хутка і якасна выконваць заказы.

Дарэчы, у гэтым месяцы да нас прыбудзе з Рыбінска новы лінавальна-сшыткавы агрэгат (ён ужо ў дарозе), што дазволіць выпускаць ужо на наступны год вялікі і разнастайны асартымент сшыткаў у 12, 18, 48 і 96 аркушаў, як у большым аб'ёме ў параўнанні з сённяшнім днём, так і з палепшанымі якаснымі характарыстыкамі.

**— Дзе знаходзяцца вашы рынкі збыту?**

— У нашай рэспубліцы і Расійскай Федэрацыі. Мы актыўна ўдзельнічаем у розных кірмашах і выстаўках. Нядаўна наша дэлегацыя вярнулася з маскоўскага кірмашу, а ў мінулым месяцы — з мінскага, дзе мы заключылі дагаворы больш як са 130 буйнейшымі універмагамі, магазінамі і прадпрыемствамі на пастаўку нашых тавараў. Заўважу пры гэтым, што яны, тавары нашы, з'яўляюцца аднымі з лепшых як па мастацкім афармленні, так і па якасных характарыстыках не толькі на беларускім рынку, але і на расійскім. Нашы сшыткі, напрыклад, маюць куды большую ступень гарантыі і надзейнасці, чым аналагічныя вырабы іншых прадпрыемстваў, і хаця яны крыху даражэй каштуюць, але студэнты і навучэнцы аддаюць перавагу ім.

**— А што вы можаце сказаць пра работу з пастаўшчыкамі матэрыялаў і сыравіны для прадпрыемства?**

— На восемдзесят працэнтаў гэта расійскія калектывы — арганізацыі, прадпрыемствы, фірмы. З імі ў нас сувязі сапраўды даўнія і добрыя, па дзесяць — дваццаць гадоў. Паперу, напрыклад, мы атрымліваем ад 39 пастаўшчыкоў. Ёсць сярод іх і беларускія фірмы, якія займаюцца пасрэдніцкай дзейнасцю. Іх паслугамі мы карыстаемся з прычыны, звязанай з цяжкасцямі канвертацыі грошай, на што траціцца нярэдка нямала часу, ды і раз-пораз з гэтым узнікаюць праблемы. З пасрэднікамі ж, якія пастаўляюць нам паперу з расійскіх камбінатаў, мы разлічваемся нашымі беларускімі рублямі. У нас сем пастаўшчыкоў паліграфічных фарбаў. З імі мы таксама знаходзім ўзаемаразуменне.

**— І колькі ж доўгу на сённяшні дзень вы маеце перад сваімі пастаўшчыкамі?**

— Ні капейкі. А вось запазычанасць па крэдытах банкам і дзяржкамітэту па друку складае 2.700 мільёнаў рублёў.

**— Даволі салідная сума...**

— А на гэта як паглядзець. Бо даўгі нам з боку гандлюючых арганізацый куды большыя — 3.154 мільёны рублёў. З нагоды сказанага хачу паразважаць вось аб чым.



Пастаянныя неплацяжы гандлёвых арганізацый — гэта наш пастаянны галаўны боль, асноўная і непад'ёмная для калектыву праблема. Бо ў эканоміцы сёння такое цяжкае становішча, што не кожны калектыў у стане выжыць. Вось наша прадпрыемства. Каб вырабіць тавар, мы закупляем сыравіну, для чаго бяром у банку крэдыты. Лічым. Вагон паперы, а гэта пяцьдзесят тон, каштуе восемсот мільёнаў рублёў. Яе мы перапрацоўваем за паўтара тыдня, а калі пускаем на агульныя сшыткі, — дык за тыдзень.

Адпраўляем прадукцыю ў гандлёвыя арганізацыі, і тыя просяць адтэрміноўку плацяжоў на дваццаць банкаўскіх дзён. А гэта азначае, што мы аддалі тавар і ўвесь гэты час грошы ад гандлю не атрымліваем. А банкаўскія крэдыты, між іншым, «не спяць», працэнты растуць, і мы павінны вяртаць у банк куды большую суму, чым узялі. У выніку нясём пэўныя страты, а тут яшчэ адзін «сюрпрыз»: гандляры просяць яшчэ адну адтэрміноўку па плацяжах, якая іншым разам расцягваецца да трох месяцаў. А потым яшчэ настойваюць, каб мы знялі з іх пеню за несвоечасовую ўплату.

У выніку фабрыка прабуксоўвае і не можа як след развівацца. У гэтым — самыя вялікія нашы цяжкасці. І калі б у эканоміцы ліквідаваць указаную праблему, мы ў дастатковай колькасці мелі б свае абаротныя сродкі і абышліся б без банкаўскіх крэдытаў, бо наша прадпрыемства мабільнае, з вельмі гібкімі тэхналагічнымі лініямі, што дазваляе рэагаваць на любыя патрэбнасці рынку і вырабляць вельмі шырокі асартымент прадукцыі.

**— А запазычанасць па зарплаце ў вас ёсць? Дарэчы, якая яна?**

— 1 мільён 100 тысяч рублёў сярэдняя. Выплачваем яе без перабояў. Нашы работнікі таксама атрымліваюць датацыю са сродкаў фабрыкі на харчаванне і праезд.

**— На многіх прадпрыемствах зараз вымушаныя прастоі, скарочаны рабочы тыдзень. А як у вас?**

— Наша прадукцыя носіць у асноўным сезонны характар, і мы да пачатку навучальнага года значна павялічваем аб'ёмы, бо паступаюць большыя заказы на тавары ад гандлю. Таму летам працуем па паўтары і болей змены. У астатні час, асабліва зімой, попыт на школьна-пісьмовыя тавары зніжаецца, але ў нас хапае работы па выкананню розных іншых заказаў. Так што прастояў ці аўралаў у вытворчасці мы пазбягаем.

**— Ведаючы, што ваша фабрыка працуе з прыбыткам, ці звяртаецца да вас хто-небудзь па дапамогу?**

— Шмат гадоў мы аказваем шэфскую і дабрачынную дапамогу двум падшэфным школам, дзіцячаму садзіку і такім грамадскім фондам, як чарнобыльскі, мнагадзетных маці і маці-адзіночак, царкве. Сёлета на гэтыя мэты затрачана ўжо 79,7 мільёна рублёў.

У заключэнне вельмі хачу назваць прозвішчы ветэранаў вытворчасці, нашага сапраўднага залатога фонду. Гэта людзі, якія прапрацавалі па 35—40 гадоў, асвоілі мноства вытворчых працэсаў і навучылі прафесіі наборшчыка, друкара, пераплётчыка і інш. прадстаўнікоў маладога пакалення. Сярод іх асобнае месца займае Лідзія Васільеўна Кашпур, якую ў нас называюць пераплётчыцай ад Бога. Працуе яна, хаця ўжо даўно дасягнула пенсіённага ўзросту, у нас ужо сорак восем гадоў, мае ўрадавую ўзнагароду, навучыла сваёй прафесіі дзесяткі вучаніц.

Адважны ў мінулым воін Савецкай Арміі Віктар Дзмітрыевіч Вятошкін, кавалер ордэна Славы трох ступеняў, за мірную працу брыгадзіра фотацынкографаў быў удастоены ордэна Леніна, яму прысвоена званне заслужанага работніка прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

Шмат добрых слоў адрасую я і такім ветэранам, як наборшчыца Марыя Ермалаеўна Марчанка, брыгадзір ліноўшчыкаў Сцяпан Анісімавіч Дзюбянкоў, былы дырэктар Іван Ільіч Малчанаў, машыніст і друкар Васіль Іванавіч Праведны, машыніст рэзальных машын Леаніда Паўлаўна Лапіцкая. Дагэтуль на фабрыцы працуюць з поўнай аддачай сіл такія ветэраны, як машыніст рэзальных машын Анатоль Рыгоравіч Трушко, друкар Валянціна Ходзік і іншыя, хто свае веды і вопыт перадае маладым работнікам.

**— Якая мара ёсць у дырэктара?**

— Вярнуць ранейшую колькасць працуючых і павялічыць выпуск прадукцыі.

**— Калектыў газеты «Звязда» шчыра жадае вам гэтага і віншуе з юбілеем вашых працаўнікоў.**

— Дзякую.

**Гутарыў Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



***НА ЗДЫМКАХ** (зверху ўніз): дырэктар фабрыкі «Палесдрук» **Барыс ГРАНКІН;** старэйшая работніца прадпрыемства **Лідзія КАШПУР** са сваімі былымі вучаніцамі; лепшы па прафесіі машыніст рэзальных машын **Уладзімір КАРАНКОЎ;** перадавік вытворчасці, друкар з 30-гадовым стажам работы **Валянціна БОНДАРАВА** са старшынёй прафкома фабрыкі **Людмілай БУЛАЎКІНАЙ**.*

**Фота Сяргея МАРОЗАВА.**

## ЖЫЦЦЁ

### Казус

Якую падзею «абмывалі» дзед з бабай — прынесеную паштальёнам у хату пенсію ці яшчэ што, але набраліся абодва выключна. Старому арганізму многа не трэба. Баба адразу звалілася. Прачухаўся крыху дзед, пакратаў бабіны рукі-ногі: халодныя! Няйначай памерла! Падняў гвалт і паімчаўся ў калгасную кантору. Маўляў, дапамажыце пахаваць. Сталі бабе спешна рабіць труну, клапаціцца пра памінальны абед.

У рэдакцыю раённай газеты «Навіны Камянеччыны» тэрмінова даслалі некралог, дзе значылася, што праўленне калгаса імя Леніна глыбока смуткуе з выпадку смерці былой даяркі...

На той свет прынята ісці чалавеку чыстым. Сталі суседкі бабу цёплай вадой абмываць. Толькі кранулі анучкай твар, як баба лып-лып вачыма — ажыла! Усе, хто быў у хаце, ледзь пад лаўкі не пападалі. А «нябожчыца» села і неўразумела азіраецца вакол: а дзе мая спадніца ды камізэлька?

А ў рэдакцыю газеты тэрмінова пазваніла калгасная бухгалтарка:

— Не друкуйце, калі ласка, дасланы некралог, жанчына жывая...

— Дык вы ж грошы заплацілі...

— А халера іх бяры, тыя грошы!

— А чаму ўрача не выклікалі да небаракі?

— А якога ўрача да старой бабы выклікаць? Памерла дый памерла. А яна ж напілася, каб яе ліха...

Застаецца толькі дадаць, што расказаная гісторыя адбылася сёлета ў вёсцы Сухадол Камянецкага раёна.

Будзе навука бабе. Прыціхла яна і раніцой цяпер заўсёды пячэ дзеду аладкі. Кажуць, пасля такой пагалоскі жыць ёй больш за сто гадоў.

**Ніна ГАРАГЛЯД.**

## 36,6°

### 7 спосабаў перамагчы ангіну

1. Напоўніце шклянку нацёртымі сырымі буракамі. Уліце туды сталовую лыжку воцату (але не эсенцыі). Настойвайце на працягу гадзіны, працадзіце. Піце невялікімі глыткамі.

2. Палашчыце горла сырым бурачным сокам.

3. Палашчыце горла настоем, прыгатаваным з роўных частак чыстацелу і рамонку (па адной сталовай лыжцы на шклянку кіпеню).

4. Палашчыце горла роўнай сумессю лімона з мёдам. Гэтай сумессю палашчыце горла некалькі хвілін і потым праглыніце.

5. Палашчыце горла вадой з цукрам, растворапым да стану сіропу.

6. У пачатку хваробы можна лячыць горла газай. Прафільтруйце газу праз тоўсты слой ваты. Намайце на палачку вату, абмакніце ў газу і змазвайце міндаліны кожныя паўгадзіны. Ні ў якім разе не выкарыстоўвайце авіяцыйнае паліва.

7. Пры фалікулярнай ангіне хуткае выздараўленне дае лячэнне спіртавым настоем пропалісу.

Заліце 10 г здробненага пропалісу 100 г спірту. Настойвайце яго на працягу сутак пры пакаёвай тэмпературы, перыядычна ўстрэсваючы. Адфільтруйце праз адзін слой марлі. Дзве чайныя лыжкі атрыманага экстракту развядзіце ў 0,5 шклянкі цёплай вады і палашчыце горла.

**«АиФ — «Семейный совет».**

### Ляцеў арлан белахвосты...

Вялікае мноства дзікіх звяроў і птушак развялося ў забруджаных радыенуклідамі раёнах Гомельшчыны — ласі, ваўкі, лісы, дзікія кабаны. Апошнія распладзіліся да таго, што дзе-нідзе знішчаюць калі не палову, дык значную частку пасеваў.

А ў зоне адчужэння, дзе чалавеку жыць забаронена, у Брагінскім раёне, пасяліўся белахвосты арлан — птушка драпежная і вольналюбівая, размах крылаў якой дасягае двух метраў. Яе бачыў старшыня райсавета дэпутатаў Пётр Раманюк і іншыя людзі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Нобель і нобелеўскія прэміі

**10 снежня гэтага года спаўняецца сто гадоў з дня смерці буйнейшага ў гісторыі чалавецтва вынаходніка, наватара інжынернай думкі, заснавальніка самых прэстыжных у свеце прэмій — шведа Альфрэда Нобеля (1833—1896 гг.).**

Альфрэд Бернхард Нобель з'яўляецца адным з прадстаўнікоў вядомага роду шведскіх вынаходнікаў і прамыслоўцаў, якія доўгі час жылі і працавалі ў Расіі. Яго бацька Эмануэль (1801—1872 гг.) вядомы як вынаходнік падводных мін. Ён таксама заснаваў у Пецярбургу буйны механічны завод. Альфрэд жа Нобель у 1867 годзе вынайшаў дынаміт, што стала рэвалюцыяй у прамысловасці, будаўніцтве, а пазней і ў ваеннай справе. Яго брат Людвіг (1831—1888 гг.) канструяваў станкі і машыны, пашырыў і тэхнічна перааснасціў створаны яго бацькам у Пецярбургу механічны завод (цяпер завод «Рускі дызель»). Браты заснавалі на нафтапромыслах у Баку буйное нафтаперапрацоўчае прадпрыемства, якое дало штуршок бурнаму развіццю гэтага нафтаноснага раёна.

Безумоўна, сям'я Нобеляў многае зрабіла для развіцця сусветнай навукі і прамысловасці. Аднак гэты род больш за ўсё на стагоддзі ўславілі заснаваныя Альфрэдам Нобелем міжнародныя прэміі, якія і носяць яго імя.

Згодна з завяшчаннем Нобеля, капітал, які застаўся пасля яго смерці, і ўтварае Нобелеўскі фонд. Гэтыя сродкі былі змешчаны ў акцыі, аблігацыі і пазыкі. Прыбытак ад іх штогод дзеліцца на пяць роўных частак, кожная з якіх прысуджаецца за выдатныя работы ў галіне фізікі, хіміі, фізіялогіі, медыцыны і літаратуры, а таксама за дзейнасць па абароне міру.

Тым, каму прысуджана Нобелеўская прэмія, уручаецца залаты медаль з адлюстраваннем Альфрэда Нобеля, дыплом і чэк на грашовую суму, велічыня якой залежыць ад прыбыткаў Нобелеўскага фонду. У дваццатыя гады на аднаго лаўрэата прыпадала 20—30 тысяч долараў ЗША, цяпер жа здараецца — каля мільёна долараў.

Абмеркаванне прадстаўленых работ і кандыдатур, а таксама галасаванне праходзяць у строгай сакрэтнасці. Урачыстыя цырымоніі ўручэння Нобелеўскіх прэмій адбываюцца ў Стакгольме і Осла 10 снежня, у гадавіну смерці Альфрэда Нобеля. Першыя прэміі, на жаль, былі ўручаны ўжо пасля смерці іх заснавальніка — у 1901 годзе. Лаўрэатамі сталі В. Рэнтген (Германія), Я. Вант-Гоф (Нідэрланды), Ф. А. Сюлі-Прудом (Францыя), Э. фон Берынг (Германія). Прэміі атрымалі шмат слынных літаратараў — Кіплінг, Метэрлінк, Фолкнер, Гамсун, Хемінгуэй... Сярод іх рускія паэты і празаікі: Іван Бунін (1933 г.), Барыс Пастэрнак (1958 г.), Міхаіл Шолахаў (1965 г.), Аляксандр Салжаніцын (1970 г.), Іосіф Бродскі (1987 г.). Крыху дзіўна, але гэтая прэмія абмінула светача сусветнай літаратуры Льва Талстога.

Сярод узнагароджаных імёны вядомых людзей нашага стагоддзя: Рамэн Ралан, Рабіндранат Тагор, Іван Паўлаў, Пётр Капіца, Уінстан Чэрчыль, Міхаіл Гарбачоў... Вядомыя вучоныя — амерыканскі хімік і фізік Лайнус Карл Полінг, прафесары Джон Бардын і Фрэдэрык Сангер, а таксама польская вучоная Марыя Складоўская-Кюры — Нобелеўскую прэмію атрымалі двойчы. У ліку лаўрэатаў ёсць зусім маладыя людзі. У момант узнагароджвання амерыканскаму хіміку Тэадору Рычардсу было ўсяго толькі 23 гады, а фізіку, прафесару Уільяму Ларэнс Брэгу — 25 гадоў.

Найбольшую колькасць Нобелеўскіх прэмій, больш за 200, атрымалі грамадзяне ЗША. Гэта і не дзіўна — багатая Амерыка перацягнула да сябе тысячы таленавітых людзей з усяго свету. Сярод яе нобелеўскіх лаўрэатаў ёсць выхадцы з Германіі, Японіі, Сінгапура, Індыі, Карэі, Паўднёвай Афрыкі, Расіі, Украіны... Не сумняваюся, што ў ліку ўзнагароджаных ёсць і таленты, чые карані пайшлі з нашай, беларускай зямлі. Але ў дадзеным выпадку гэта не так і важна, бо ў палажэнні аб Нобелеўскіх прэміях запісана: «за выдатныя дасягненні, выкарыстоўваемыя на карысць чалавецтва». А ўсе мы, незалежна ад нацыянальнасці і паходжання, прадстаўнікі гэтага чалавецтва.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

## ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

## ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. АСНОЎНЫЯ ЗМЯНЕННІ І ДАПАЎНЕННІ

*(Праця́г. Пачатак у №№ 266, 270, 271, 273, 275, 278, 281)*

***Дадатак 1 да Правілаў дарожнага руху***

### ПЕРАЛІК НЯСПРАЎНАСЦЕЙ І ЎМОЎ, ПРЫ ЯКІХ ЗАБАРАНЯЕЦЦА ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ

(Уведзены) Гэты пералік няспраўнасцей аўтамабіляў, аўтобусаў, аўтапаяздоў, прычэпаў, паўпрычэпаў, матацыклаў, мапедаў, трактароў, іншых самаходных машын і ўмовы, пры якіх забараняецца іх эксплуатацыя, а таксама метады праверкі прыведзеных параметраў устаноўлены ў адпаведнасці з ДАСТ 25478-91 «Аўтатранспартныя сродкі. Патрабаванні да тэхнічнага стану па ўмовах бяспекі руху. Метады праверкі».

**1. ТАРМАЗНЫЯ СІСТЭМЫ**

1.1. *(уведзены)* Пры дарожных выпрабаваннях не выконваюцца наступныя нормы эфектыўнасці тармажэння рабочай тармазной сістэмай:

| Назва транспартных сродкаў | Тармазны шлях (м, не больш) | Запавольванне (м/с(2), не менш) |
|---|---|---|
| Легкавыя аўтамабілі і іх мадыфікацыі для перавозкі грузаў | 12,2 (14,5) | 6,8 (6,1) |
| Аўтобусы з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 5 т уключна | 13,6 (18,7) | 6,8 (5,5) |
| звыш 5 т | 16,8 (19,9) | 5,7 (5,0) |
| Грузавыя аўтамабілі з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 3,5 т уключна | 15,1 (19,0) | 5,7 (5,4) |
| ад 3,5 т да 12 т уключна | 17,4 (18,4) | 5,7 (5,7) |
| звыш 12 т | 16,0 (17,7) | 6,2 (6,1) |
| Двухколавыя матацыклы і мапеды | 7,5 (7,5) | 5,5 (5,5) |
| Аўтапаязды, цягачамі якіх з'яўляюцца: | | |
| легкавыя аўтамабілі і іх мадыфікацыі для перавозкі грузаў | 13,6 (14,5) | 5,9 (6,1) |
| аўтобусы з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 5 т уключна | 15,2 (18,7) | 5,7 (5,5) |
| звыш 5 т | 18,4 (19,9) | 5,5 (5,0) |
| грузавыя аўтамабілі з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 3,5 т уключна | 17,7 (22,7) | 4,6 (4,7) |
| ад 3,5 т да 12 т уключна | 18,8 (22,1) | 5,5 (4,9) |
| звыш 12 т | 18,4 (21,9) | 5,5 (5,0) |

*Заўвагі:* 1. Велічыні тармазнога шляху і ўстойлівага запавольвання, прыведзеныя ў дужках, распаўсюджваюцца на транспартныя сродкі, вытворчасць якіх была пачата да 1 студзеня 1981 г.

2. Выпрабаванні праводзяцца на гарызантальным участку дарогі з роўным, сухім, чыстым цэментна- ці асфальтабетонным пакрыццём пры пачатковай скорасці тармажэння 40 км/гадз. — для аўтамабіляў, аўтобусаў і аўтапаяздоў і 30 км/гадз. — для матацыклаў і мапедаў. Транспартныя сродкі правяраюць у падрыхтаваным стане з вадзіцелем шляхам неаднаразовага ўздзеяння на орган кіравання рабочай тармазной сістэмы.

3. Эфектыўнасць рабочай тармазной сістэмы аўтатранспартных сродкаў можа быць ацэнена і па іншых паказчыках у адпаведнасці з ДАСТ 25478-91.

1.3. Парушэнне герметычнасці пнеўматычнага і пнеўмагідраўлічнага тармазнога прыводаў выклікае падзенне ціску паветра пры непрацуючым рухавіку больш чым на 0,05 МПа (0,5 кг/см(2)) **за 15 хвілін пасля прывядзення іх у дзеянне.**

**2. РУЛЯВОЕ КІРАВАННЕ** *(без змяненняў).*

**3. ЗНЕШНІЯ СВЕТЛАВЫЯ ПРЫБОРЫ**

**3.5. Устаноўка пробліскавых маячкоў не адпавядае патрабаванням стандарта.**

**3.6. Спераду транспартнага сродку ўстаноўлены светлавыя прыборы з агнямі чырвонага колеру ці святловяртальнікамі чырвонага колеру, а ззаду — белага колеру, акрамя ліхтароў задняга ходу і асвятлення рэгістрацыйнага знака, святловяртальных рэгістрацыйнага, адметнага і апазнавальнага знакаў.**

**3.7. Унутры аптычных элементаў знаходзяцца не прадугледжаныя канструкцыяй прадметы (вадкасці).**

**3.8. Сігналы тармажэння ці апазнавальны знак аўтапоезда працуюць у пробліскавым рэжыме.**

**4. ШКЛОАЧЫШЧАЛЬНІКІ І ШКЛОАДМЫВАЛЬНІКІ ВЕТРАВОГА ШКЛА**

4.1. Не працуюць ва ўстаноўленым рэжыме шклоачышчальнікі. **Частата перамяшчэння шчотак па мокраму шклу ў рэжыме максімальнай скорасці шклоачышчальнікаў менш як 35 двайных хадоў у хвіліну.**

**5. КОЛЫ І ШЫНЫ**

**5.3. Адсутнічае болт (гайка) мацавання ці маюцца трэшчыны дыска і абадоў колаў.**

5.4. Шыны па памеру ці допушчальнай нагрузцы не адпавядаюць мадэлі транспартнага сродку.

**5.5. На адну вось аўтобуса, легкавога аўтамабіля ці прычэпа да яго ўстаноўлены дыяганальныя шыны сумесна з радыяльнымі ці шыны з розным малюнкам пратэктара.**

**На адну вось грузавога аўтамабіля ці прычэпа (паўпрычэпа) да яго ўстаноўлены дыяганальныя шыны сумесна з радыяльнымі ці шыны з розным малюнкам пратэктара.**

**6. РУХАВІК** *(без змяненняў)*

**7. ІНШЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ КАНСТРУКЦЫІ**

7.7. Адсутнічаюць:

на аўтобусе, легкавым і грузавым аўтамабілях, **колавых трактарах** — медыцынская аптэчка, вогнетушыцель, знак аварыйнага прыпынку (мігатлівы чырвоны ліхтар) *(далей без змяненняў);*

**7.11. Рэгістрацыйны знак транспартнага сродку не адпавядае патрабаванням стандарта.**

7.14. *(уведзены)* Адсутнічаюць прадугледжаныя канструкцыяй ці ўстаноўленыя без узгаднення з прадпрыемствам-вытворцам транспартнага сродку ці іншай упаўнаважанай на тое арганізацыяй дадатковыя элементы тармазных сістэм, рулявога кіравання і іншых вузлоў і агрэгатаў, патрабаванні да якіх рэгламентуюцца гэтым Пералікам.

***(Заканчэнне будзе.)***

## Тэлебачанне, 10 снежня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.45** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Мая Радзіма — Беларусь. 4-ы клас. «Полацкая Сафія». **9.25** «Два клёны». Мультфільм. **19.00** Тураб'ектыў. **10.30** «Трапічная спёка». 18-я серыя. **11.30** Чацвёртае вымярэнне. Навукова-асветніцкая праграма. **12.10—12.40** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.10** «Басаножка і яе сябры». Мультфільм. **15.30** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Адам Міцкевіч і яго час. **15.55** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.20** Творцы. Заслужаная артыстка Беларусі, канцэртмайстар Ларыса Максімава. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** «Дзеці кавалера Жан-Баціста Піранезі». Дак. фільм. **18.10** «Будзьце здаровыя». **18.20** Музычны антракт. **18.30** Рэклама. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад. **19.05** Вертыкаль. Улада і адказнасць. Па матэрыялах комплекснай праверкі раёнаў Гомельскай вобласці. **19.40** «Трапічная спёка». 18-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. «Пастка для зубра. Ягайла». Маст. фільм. **23.20** Іграе лаўрэат міжнародных конкурсаў гітарыст Ураш Дайчынавіч (Югаславія). **23.45** Навіны.

### ГРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.50** Што? Дзе? Калі? **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». **11.55** Фільм «Соф'я Пятроўна». **13.30** Смехапанарама. **14.20** Мультсерыял. **14.45** Квар'етэ «Вясёлая кампанія». **14.55** Мульціtrolія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.40** «Карын і яе сабака». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Вакол свету». **17.15** «Новая ахвяра». **18.05** Надвор'е. **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** Тэма. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.45** Хакей. ЦСК — «Слован». **23.05** Прэс-экспрэс. **23.20** «50х50».

### Расія

**6.00** Ранішні экспрэс. **6.25** Па дарозе на працу. **6.35** «Прагулка ката Леапольда». Мультфільм. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20, 9.50, 23.25** Тавары — поштай. **7.30** Ранішні экспрэс-2. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** Дарагая рэдакцыя... **8.55--10.20** «Санта-Барбара». **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.05** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.15** Пункт апоры. **17.45** Надзвычайны канал. **18.10** Лідэр-прагноз. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Раз у тыдзень. **21.05** Надвор'е. **21.10** Мужчына і жанчына. **21.50** «На кані». Тэлелатарэя. **22.20** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава. **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **24.00—0.55** Гукавая дарожка «МК».

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.10** «Гісторыя кахання». Серыял. **13.00** Тэрмін адказу — сёння. **13.30** Парады садаводам. **13.40** «Банкет». Мультфільм. **14.15** «Забойны аддзел». Серыял. **15.10, 20.45** Тэлеслужба бяспекі. **15.25** Тама, мама і я — спартыўная сям'я. **16.10** «Чарадзей». Маладзёжны серыял. 2-я серыя. **16.35** Дзень імя Нобеля. **17.05** Дзецям пра зверанят. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.25** «Гісторыя кахання». Серыял. **20.20** Храм. **21.00** «Забойны аддзел». Серыял. **22.05** Падзея. **22.20** Спартыўны агляд. **22.30** Дзённік II Міжнароднага балетнага конкурсу «Мая-96». **22.40—23.50** «Кумпарсіта». Маст. фільм (Расія, Украіна).

### НТБ

**5.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00, 8.30, 9.00, 9.30** Сёння раніцай. **9.00** Фільм Джорджа Пан Касматоса «Уцёкі да Афіны». **11.20** Сёння вечарам. **11.20** Кніжныя навіны. **11.35** Грошы. **11.45** Камп'ютэр. **12.00** Расійскія універсітэты. **13.00** Сёння днём. **13.15** Вялікая «Часінка». **15.00** Сёння днём. **15.15** Грошы. **15.30** Дыстанцыя 60. **16.30** Маст. фільм «Блакітнае дрэва». 22-я серыя. **17.30** Праграма для дзяцей. **18.00** Сёння вечарам. **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Тры колеры: белы». Фільм 2-гі. **20.35** Музыка на канале. **21.00** Сёння вечарам. **21.35** «За гранню немагчымага». 22-я серыя. **22.30** Часінка. **23.00** Сёння ў поўнач. **23.20** Шахматы. **23.25** Меламанія: «Джо Кокер».

### 8-ы канал

**18.00** Мультфільм «Дзюймовачка». **18.30** Маст. фільм «Цалуй ці памры». **20.15** «Том і Джэры». **20.45** Серыял «Спяваючыя ў цярноўніку». **21.45** Навукова-папулярны экран. **22.00** Навукова-папулярны фільм «Цень». **23.55** Без каментарыя.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7733.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12